**Уладзімір Содаль**

# Умей слухаць

**Кушлянскія дыяменты – жартоўкі, анекдоткі, народныя аповеды, досціпы**

**Мінск, “Беларускі кнігазбор”, 2003**

**УДК 398.9+821.161.3-7**
**ББК 82.3 (4 Беи)**
**С 57**

**Содаль У.**
**С 57**
Умей слухаць: Кушлянскія дыяменты — жартоўкі, анекдоткі, народный аповеды, досціпы / Уладзімір Содаль. — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 2003. — 84 с.

**ISBN 985-6730-06-6.**

Гарэлкі не п'ю, цыгарэтаў не смалю, а за гэтыя грошыкі кніжачку выдаю. Спрыяй мне, Божа, і надалей.

**УДК 398.9+821.161.3-7**
**ББК 82.3 (4 Бей)**

**ISBN 985-6730-06-6**

# ЗАЛАЦІНКІ

*Багатая наша зямля. І таленавітая. Багатая яна на ўсё. І на гумар таксама. Беларускія фальклярысты запісалі і выдалі тысячы розных жартаў, гумарэсак, смяшынак. Шмат якія мясціны нашага краю вывучаны імі няблага. Але ёсць і такія куточкі, якія яшчэ вельмі слаба спазнаныя. Такім нерушам мне падаюцца і Багушэвічавы Кушляны, кушлянскі край, дзе прайшло маленства і юнацтва вядомага пісьменніка і адваката, апошнія гады ягонага жыцця.*

*Вельмі вясёлыя і дасціпныя людзі жылі і жывуць у гэтым краі. На кожную нагоду ў іх ёсць сваё слова, свой жарт. Гэтую кушлянскую дасціпнасць калісь ведаў Францішак Багушэвіч. Ён поўнай жменяй чэрпаў з народных крыніцаў словы, сюжэты для сваіх твораў. Прыкладам, 1 студзеня 1890 года Францішак Багушэвіч паведамляў Яну Карловічу: «...запісаў некалькі прымавак, здабыў колькі новых слоў, уласцівых толькі гэтай мове, пра якія хацеў бы калі-небудзь пагаварыць з Вяльможным Панам, высветліць іх прыроду...»*

*А от яшчэ адзін з такіх Багушэвічавых запісаў для Карловіча: «Што да прымавак з прозвішчам у Ашмянскім павеце, як свет, старая: «Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!» І далей Багушэвіч тлумачыў: «Кажуць так пры нейкай неспадзеўцы, скажам, пры гульні ў карты — рэміз ды інш. Пачатак бярэ з 1850-х гадоў. Гісторыя такая: з Казлоўскім судзіліся сяляне і прайгравалі. Адзін з іх — аферыст, узяў даручэнне і грошы, нібы на працэс у Пецярбургу, але недзе пару тыдняў прабадзяўся, вярнуўся дый кажа, што бачыўся з самім імператарам, з якім знаёмы з часоў службы, і калі распавёў яму пра ўсе махлярствы Казлоўскага, дык гасудар здзіўлёна пахітаў галавой і сказаў: «Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!» Потым цёпла развітаўся з «адвакатам» і качаў вяртацца дадому, абяцаючы хутка прысланць «пісьмо».*

*У Францішка Багушэвіча, згадваюць, быў тоўсты сшытак, у які ён натаваў цікавыя гутаркі, дыялогі, прымаўкі, паданні, легенды. На жаль, сшытак той не ацалеў. Але хоць і мінула шмат часу з тае пары, як рабіў свае запісы Баіушэвіч, ды, надумалася, у народной памяці захавалася яшчэ нямала з таго, што некалі чуў наш пясняр, што ён запісваў сам. Гэтая думка і скіравала мяне да збору на Кушляншчыне народных апавяданняў, жартаў і цікавых гісторый. А тут яшчэ адна шчаслівая нагода. У 1951 годзе ў Багушэвічавай хаце пасяліўся ўлюбёны ў паэтава слова Міхал Сымонавіч Ляпеха, якому і народны жарт быў падуладны, які і сам здатны быў экспромтам*

*радок зарыфмаваць. Ён пра самого сябе казаў: «Ляпеха — жыве дзеля смеха». Ці: «Ой, будзе ўсім гора, што Ляпеха памрэ скора». Ці яшчэ: «Не хочацца казаць, Але сэрца часта кажа, Што Міхале скора У зямельку ляжа». От мы ўдвух гадоў з дваццаць таму ці мо болей пачалі запісваць у Кушлянах усё, што не мае паўтору ў іншых фальклорных зборніках.*

*Фрнцішак Багушэвіч меў талент гумарыста, сатырыка. Пра гэта сведчаць ягоныя народныя апавяданні — «Сведка», «Дзядзіна», «Палясоўшчык» ды байкі — арыгінальныя і перакладныя — «Воўк і авечка», «Свіння і жалуды», «Свінні і бараны», «Верабей і каша» ды некаторыя іншыя творы.*

*Паводле звестак польского біяграфічнага слоўніка, Багушэвіч «распасылаў па вёсках жартаўлівыя песні і сатырычныя вершы, якія падхопліваў народ і перадаваў з вуснаў у вусны...».*

*Зусім магчыма — многае з таго, што прапанавана тут чытачам, ідзе з Багушэвічавых і нават пазнейшых часоў. Многае, відаць, ён чуў на свае вушы і меў запісаным у сваім сшытку. Паміж іншым, у самым грунтоўным томе беларускіх жартаў, анекдотаў, гумарэсак, які выйшаў у 1984 годзе ў шматтомавай серыі беларускага фальклору, з 1127-мі досціпаў з Смаргоншчыны ды Ашмяншчыны апублікована ўсяго толькі тры анекдоты. «Малітва багацея» (59), «Біскуп і сабачка» (171), «Трошку паспала» (316).*

*Ці не замала гэтага на ўвесь смаргонска-ашмянскі абшар?*
*З гэтым клопатам пускаю ў свет кушлянскія дыяменты.*

*Усміхайцеся, смакуйце!*

*Уладзімір Содаль*

## А НАРОД КАЖА…

### УМЕЙ СЛУХАЦЬ…

Быў тут адзін штукар. Дужа любіў загадкава гаварыць. Напляце, нагародзіць якую небыліцу і скажа: «Умей слухаць!» Яго так і звалі: «Умейслухаць». Быў ён у гадох, стары ўжо і нежанаты. Калі ў яго хто пытаўся: «Чаму, Зьмітрук, не жэнішся?», дык ён казаў: «Як жа мне жаніцца, калі я аж трох жанок меў. Але з усімі, умей слухаць, здарылася няшчасце. Першая надта файная гаспадыня была. У яе добра гуркі радзілі. Раслі вялікія, як бочкі. На восень іх на вышкі ўсцягнулі. Дык чаго тая жонка падкруцілася на тых вышках — адзін агурок, умей слухаць, зваліўся і забіў яе. Другая, умей слухаць, таксама ніштo была кабета, ды на Куццю кісялём захлынулася. А трэцяя, умей слухаць, пайшла на Пятра ў Жупраны на фэст і на лёдзе раздзёрлася…» Каб быць добрым апаведачом, трэба быць і добрым слухачом! Умей слухаць!

### КОНЬ ПАСЕЦЦА НА ЛАПАЦЕ…

Любіў тутэйшы люд гульні. Асабліва з словам. Падабалася гульня з словамі і Мацею Бурачку.

Аж смяялася сарока,
Як з'арала баба гоні;
Заяц спудзіўся ад вока,
Ад гарбы падохлі коні.

Аж лісіцы забрахалі,
Як мужык грачыху рваў,
Воўкі полудзень забралі,
Як ён першы сноп вязаў.

Баба люльку кура ў хаце,
А мужык пярэ кашулі,
Конь пасецца на лапаце,
А на вербе растуць дулі.

Ой, на прыпечку ў балоце
Лавіў рыбку гаспадар,
А пры выгане на плоце

Хаваў грошы аліндар.
Ой, нявестка цешчу любе,
А сын бацьку шанаваў,
На сабакі заяц трубе,
Вінны доўг сам аддаваў!

## НЕ ТАК ІГРАЕШ

Было гэта за Ашмяной. Ёсць там вёскі Піктуша і Бычкі. У адной і другой колісь па карчомцы было. Ну і, ведама, кожнаму карчмару хацелася, каб да яго болей людзей ішло. Стараліся яны адзін перад адным. Ну але не ўсялякае стаpанне на карысць. От так было і з піктушанскім карчмаром. Гулялі ў ягонай карчме вечарынку. Ведама ж, і скокі былі, і музыкі гралі. Ну от, карчмару падалося, што музыка не так іграе. Нібыта яго скрыпачка выгаворвае: «Ад Піктушы да Бычкоў, ад Піктушы да Бычкоў...» А граў на скрыпачцы Венцаловіч. Дык карчмар падыходзіць да яго і кажа: «Пане Венцаловіч, не так на скрыпачцы граеш. Пан усё грае: «Ад Піктушы да Бычкоў, ад Піктушы да Бычкоў». А пан іграй: «Ад Бычкоў да Піктушы, ад Бычкоў да Піктушы...»

## ТРЫ НОТЫ

Быў тут у нас яшчэ адзін музыка. Таксама на скрыпачцы граў. І было ў яго ўсяго тры ноты. Першая на матыў:
«У куце мухі, у куце мухі...»

Другая: «І пад нары, і пад нары...»

Трэцяя: «Катора глуха, нех не слуха, катора слепа, нех уцека...»

Граў, як лучынкай вадзіў па паркане з частаколу. Але нічога. Пачуваліся шчасліва — гулялі, скакалі пад тыя прыпеўкі.

## КАБ ПАДЛАДЗІЦЬ...

— Ясюк, чаму не граеш?

— Трэба падладзіць струны.

— Дык падладзь!

А каб падладзіць струны — трэба завітаць у карчму ў Стрыпуны.

## БЫВАЕ, І ВОЎК СПЯВАЕ

Трое музыкаў з Кушлянаў ігралі вяселле ў суседняй вёсцы. Адыгралі тое вяселле — пара і дахаты. А ісці трэба праз лес. Ідуць адзін за адным гуськом, гамоняць: ці то кожны сам з сабою, ці то ўсе разам гудуць-гугнявяць. А ў вачах мутна. Усё дваіцца, траіцца. Але ж ідуць-брыдуць, ногі сунуць-перастаўляюць. Аж насустрач ім паніч такі прыгожы, файны выходзіць: у белай манішцы, з цыліндрам на галаве. Порткі на ім у абцяжку, і кажа:

— Казалі мне, што вы вельмі ўдалыя музыкі, пекна граеце. Я запрашаю вас пайграць у маім палацы.

Пайшлі. Ішлі доўга ці мала, але дайшлі. Прад імі і праўда прыгожы палацык. Увесь у вагнях. І ў панскіх пакоях усюды і ўсё зях-зях, блісь-блісь... Гралі яны ў тых пакоях ці не гралі і колькі яны там ігралі — не памятаюць. Калі ж прачнуліся, вочы працерлі — бачаць: усе ўтрох сядзяць на высокім лаўжы з ламачча, а вакол іх цемра, лес і ваўкі вакола выюць-завываюць ці мо навет спяваюць. Давялося скрыпачам-небаракам прыціснуць свае скрыпачкі да плечукоў і падыграць ваўкам.

## КЛЯВІШАМІ СТАЛА

У вёсцы Лапаціха жыў Змітрук Рудкоўскі. Ён сам рабіў гармонікі. І неблагія. Асабліва прыгожа выштукоўваў клявішы — у нас іх яшчэ хадакі называюць. Дык от абробіць Змітрук гэтыя клявішы так, што яны аж зіхацяць. Аднойчы адзін чалавек дый пытаецца ў гэнага Рудкоўскага:

— Змітрук! Якія файныя клявішы ў твайго гармоніка! А з чаго яны?

— А гэта з твайго каня. Памятаеш, у цябе была буланая кабылка?

— Была, але ж яна здохла.

— Гэта ў цябе яна здохла. А ў мяне, бач, грае! Гэтыя клявішы і ёсць з рэбрачкаў тваё канякі. Я іх абрабіў, выштукаваў, і бач, якія яны гладзенькія, як спраўна ходзяць, зіхацяць. Цешаць вока і душу.

## ВУЧЫЎСЯ Ў ЛАЗНІ

Быў у нас адзін музыка. Дужа файна на ўсім умеў іграць: і на дудцы, і на цымбалах, і на скрыпцы. Мог і на піле, і на заслонцы — на чым хочаш. Пра яго казалі: і шавец, і на дудцы ігрэц. Надаралася, хто-ніхто ў яго пытаўся:

— Юзук, дзе ж гэта ты так спраўна вывучыўся граць?
— А ў лазні! — казаў ён.
— Як гэта — у лазні?
— А дзе ж яшчэ? Толькі ў лазні можна вывучыцца музыцы, бо там нячысцікі начуюць. От яны і даюць добрую вывучку. Не так жа сабе кажуць: «Як ніхто не можа, дык чорт паможа!» Толькі на гэтую вучобу трэба хадзіць апоўначы, пасля дванаццаці, калі свет аціхне, угамоніцца, калі нішто-нішто не замінае чуць усе-ўсе гукі і зыкі.

## ДАСЦІПНЫ ЯСЬ

Жыў у нас Ясюк з Мысоў. Бедна жыў. Ну і конь у яго такі ж бедны быў. Дзе ж гэта, каб у беднага ды добры конь. Каб добрага каня мець, таксама трэба было і гаспадарку добрую мець. А ў беднага ўсяго скрозь няхват... Ну от едзе на гэтым сваім коніку Ясюк з жонкай маладою — яны толькі-толькі пажаніліся, толькі што пабраліся. А конік іхні клып-клып памалу. А жонка да Ясюка:
— Чаму ты, Ясюк, лепшага каня не купіш?
Ясюк паглядзеў на жонку, усміхнуўся дый кажа:
— Каб ты, мая Амілька, да брыдкая была, то я б каня шалёнага купіў, каб ён цябе з ветрам па вуліцы пранёс, каб цябе ніхто не пабачыў. А так я памаленьку еду, хай кожны любуецца-цешыцца, што ў Ясюка пекная жоначка.
Спадабалася гэтая сказа Ясюковай жонцы, і больш яна ніколі не дакарала яго за каня.

## ШТО СУЧКА, ШТО КУМА

Быў кум на хрэсьбінах. Зваўся ён Піліп. І было на тых хрэсьбінах шмат розных ласункаў. І нешта адзін з ласункаў да яго вусоў прыліп. Кум таго-сяго і іншага на тых хрысцінах набраўся, што аж пад плотам валяўся. А бегла вуліцай сучка і чуе, што нечым смачным пахне, ёй захацелася паласавацца. Яна давай яго лізаць. А ён думаў, што гэта кума прыйшла цалавацца. І так ён ласкава яе рукой адхіляе: «Кумачка, надта ж я сёння нядужы, лепей іншым разам...»
Дык от надта ж смяяліся, што сучку кумой назваў.

## УПАРТАЯ ЖОНКА

Жыў-быў мужык. І надта яму ўпартая жонка транілася. Што гаспадар ні зробіць — усё ёй не так, усё не па ёй. Скажа ён: трэба

сеяць авёс, а яна — лён. Ён — лён, а яна — авёс. Ну, усё наперакор. І было не так, як яму хочацца, а як яна хоча. Аднаго разу ідуць яны праз рэчку. А рэчка досыць глыбокая была, хоць і нешырокая, — па кладцы пераходзілі. От ідуць яны па той кладцы, дык мужык і кажа:

— Ідзі асцярожна! Хаця не шчыканіся з кладкі.

А яна:

— Ён мне казаць будзе! Буду я яго слухаць!

Стала на сярэдзіну ды як шчыканецца ў ваду.

Прыляцелі людзі, суседзі, шукаюць, куды вада яе знесла, куды вада цячэ. А гаспадар пазірае ды кажа:

— Не, людзі, не там шукаеце. Яна не можа за вадой пайсці. Яна процiў усяго ішла і супраць вады пайшла.

## САКРЭТНАЯ

Аднаму мужыку жонка дужа ў сакрэтнасці прысягала, што яна ніколі і нікому ніякай сямейнай тайны не раскажа.

Аднаго разу гаспадар думае: дай я яе праверу. Прыйшоў дадому, сядзіць маркотны. А жонка да яго:

— Што з табою?

— Так і так, — кажа. — Сёння каваля забіў. Я табе толькі кажу. А болей, каб нікому ані-ні. Бо сама ведаеш, што за гэта будзе...

Ну што — жонка дала слова маўчаць. А па нейкім часе нешта павадзіліся, пасварыліся, дык яна на яго:

— Забойца! Душагуб! — І ўжо на ўсю вуліцу: — Ён каваля забіў!

Дайшло гэта аж да станавога прыстава. Прыходзіць той да гаспадара:

— Кажуць, што ты каваля забіў?

— Так, забіў, — не адмаўляецца гаспадар.

— А дзе ён?

— Хадзем, пакажу.

Ідуць яны ў пуню. Гаспадар разгроб сена, дастаў адтуль пушачку. Расчыніў яе — аж там, крыльцы склаўшы, конік ляжыць, цвыркун. А іх у нас кавалямі, казельчыкамі завуць.

Усё зразумеў станавы. Праўду помаўка кажа: «Жонцы калена пакажы, але праўды не кажы».

## ПА САКРЭТУ ЎСЯМУ СВЕТУ

Жыў-быў адзін чалавек. Меў ён свой дзівос. Ніколі не скідаў шапкі: ні зімою, ні ўлетку. Спаў і снедаў у шапцы. У шапцы і ажаніўся. Гэта

вельмі дзівіла жонку. Яна аж знемагала ад цікаўнасці, чаму яе чалавек ніколі не скідае шапку. Пачала чапіцца: раскажы ды раскажы. Але чалавек той не здаваўся: не магу! Калі раскажа, жыць яму будзе цяжка, прыкра. І ўсё ж аднаго разу не вытрываў жончынага націску, сказаў, што ён таму не скідае шапку, што ў яго... асліныя вушы... Калі пра гэта хто пачуе, сама ведаеш, што тады станецца, як яму жыцца будзе. Жонка дала слова, што пра гэта нікому ні гу-гу. Але ж, ведама, кабета — яна і ёсць кабета. Карціць ей пра гэта хоць каму сказаць, хоць і разумее, што з гэтага пасля будзе. І што яна робіць? Ідзе на сенажаць. Раскапала там ямачку, прыклала рукі да губ і сказала ў ямачку: «А ў майго гаспадара асліныя вушы!» Сказала так, загарнула тую ямачку зямелькай і супакоеная пайшла дахаты. Мінула колькі часу. На тым месцейку вырасла дрэўца. Пасвіў неяк на тым лужку пастушок свой статак. Нечым прывабіла яго тое дрэўца, зрэзаў ён яго ножыкам і зрабіў сабе дудку. Зайграў. І дзіўная гэта была дудка: грала адны і тыя ж словы: «А ў Агацінага гаспадара асліныя вушы...» Агатаю, як здагадваецеся, звалі жонку таго чалавека, які шапку не здымаў.

Вось і выходзіць: як ні таіся, як ні хавайся, а сакрэты ўсё роўна хоць калі-небудзь ды прарастуць, агалосяцца.

## ЛАПУХ

Ехалі на кірмаш у Смаргонь — папераддзе на возе Хайка, а за ёй Яська. Едзе Яська і з Хайкі вока не зводзіць: усё думае, як гэта каб пацалаваць яе. Пачаў Хайцы розныя намёкі рабіць. Аж яна кажа: «Сорамна неяк. Хусткі не ўзяла... Няма чым вочы прыкрыць». А пры дарозе лапухі растуць, шырачэзныя, як хусткі. Дык Яська скок з возу, адшчыкнуў лапуха: будзе замест хусткі! Ну і надта дагадзіў Хайцы. Нацалаваліся, намілаваліся, паселі на свае вазы і едуць далей. Дык Хайка ўжо сама: «Яська, вунь лапух!» Яська быў не дурань, пайшоў зноў па лапух. Праехалі шчэ трохі, а Хайка зноў: «Яська, вунь яшчэ лапух!» Яську гэта трохі надакучыла-такі, дык ён: «Добра табе казаць «лапух», а я ўжо ад гэтай мілосці апух. Паедзем, як усе людзі!»

## НЕ ТОЙ ЧАС І НЕ ТОЙ ГОЛАС...

Ці казаў я вам? Даўней, зімою, як няма чаго рабіць, дык у карчму збіраліся. Гулялі там, весяліліся. Карчма была вялікая і поблізу лесу. Карчмарыла там Хайка. Яна сюды з нейкага горада прыехала, была нетутэйшая. У горадзе нарадзілася, у горадзе расла, гадавалася і

тутэйшых звычаяў асабліва не ведала. Дык хлопцы надумаліся з яе пажартаваць. У самую Піліпаўку, як ваўкі развыліся, тыя хлопцы гукаюць карчмарку на вуліцу:

— Хадзі паслухай, як у нас зязюлькі куваюць.

Выйшла карчмарка з карчмы, вуха наставіла. А наўкола цемра, лес, зіма. Паслухала яна гэтае аднастайна нуднае выццё, паслухала і кажа:

— Божа моцны! Нешта не той час і не той голас!

З тае пары гэтыя словы і сталі прымаўкай. Як толькі хто што робіць не ў сваю пару, не ў свой час, дык і кажуць: «Не той час і не той голас!»

## СВЕДКА

У Мысах згарэла карчма. Прыехаў следчы і пачаў хадзіць выпытваць, ці не бачыў хто, як гэта здарылася. Знайшоўся і сведка. Расказвае:

— Спалі мы. Прачнуліся рана — на досвітку. Я спадніцу адкінуў, а там — агонь...

— Прычым тут спадніца?! — зазлаваў следчы. — Што ты за лухту пляцеш?

А сведка зноў сваё:

— Дык я і кажу: спалі мы. Прачнуліся на досвітку. Я спадніцу адкінуў, а там агонь...

Доўта яшчэ біўся следчы, пакуль зразумеў, што тут і да чаго. А было вось што: даўней вокны завешвалі нанач хто чым: хто посцілкай, хто дзяружкай, хто матай. Ну, а гэтыя завесілі сваё акно жончынай спадніцай. Таму следчы і не мог зразумець, пры чым тут спадніца і пажар.

## ШТО КАСЦЁЛ, ШТО МЛЫН

У аднаго бацькі быў сын. Юзікам звалі. Бацькі былі ўжо нямоглыя, а сын яшчэ недарослы. Нідзе асабліва не быў, далей сваёй вёскі нічога не бачыў. І вось аднаго разу бацькі пасылаюць яго да касцёла. А па дарозе ў касцёл быў млын — ветрачок. Хлопец падумаў, што гэта і ёсць касцёл, і зайшоў. І праўда, людзей там не меней, як у касцёле. Адны нешта бегаюць, мітусяцца, іншыя стаяць, нібы чакаюць чаго. Пастаяў трохі з імі і Юзік, сказаў колькі пацераў, паслухаў, як нешта там грукоча, лапоча, скрыгоча — падумаў, што гэта тут так арган іграе, — і дахаты вярнуўся. Бацькі і пытаюцца, як у касцёле было, што чуў, хто што казаў.

— А нічога такога. Пан Езус — гу-гу-гу. А Матка Боска — ла-та-та. Больш нічога не было.

## СПРАЎДЗІЛІСЯ АБЯЦАНКІ

У беднага чалавека памерла жонка. За пахаванне мусіў ён ксяндзу аддаць астатнюю карову. Ксёндз суцяшае небараку:

— Не бядуй, Бог дзесяцікротна ўзнагародзіць.

Тады што... Ходзіць гэнага беднага карова з ксяндзоўскімі. А іх акурат дзесяць. А лета, плёс... Першая заплясавала карова беднага. Ляціць яна дадому, да старога гаспадара, а за ёй і тыя дзесяць ксяндзовых. Гаспадар падзівіўся такой нечаканцы, але ўспомніў ксяндзовыя словы і падумаў, што яны дайшлі да Бога. Зачыніў браму, аж тут як тут ксёндз: «Давай каровы!» А мужык яму на гэта:

— А ці ж не сам мне, ксёнжа, дакляраваў, як мая жонка памерла і як я астатнюю кароўку заклаў, што Бог мяне за гэта дзесяцікротна ўзнагародзіць? Вось я і прычакаў гэтай узнагароды. Ідзі з Богам!

## АСІПАНЫ І ШЧОПАНЫ

Дзве невялікія вёсачкі па дарозе ў Кушляны. Поблізу адной і другой некалі жылі паны. Адны з іх, хоць і былі вельмі багатыя — паны з паноў, але спагадныя. Пра іх нібыта сяляне заўсёды казалі: «Ось паны, дык паны!» Адсюль і назва: Осьпаны — Асіпаны. І зусім іншыя былі паны ў другім двары: сквапныя, ганарлівыя, не грэбавалі з мужыка капейку ўрваць, нават сіроцкую. Былі яны, вядома, паны з мужыкоў, ва ўсім надта дробязныя, скупыя. Таму пра іх казалі: «Шчэ паны!» І стала — Шчопаны.

## САБІЛКІ

Багушэвічаў сусед Маркоўскі купіў грамафон. Здавалася, што тут такога: купіў дык купіў. Але, як кажуць, і купляць трэба з розумам. А як зробіш гэта не па-людску, людзі век смяяцца будуць. І смех гэты не памрэ і пасля смерці. Але слухайце.

Меў Маркоўскі апрача фальварка ў Кушлянах яшчэ невялічкі фальварачак, ці мо засценак, за Крэвам, недалёка ад Янушоў. Зваўся ён Сабілкі. І што гэнаму Маркоўскаму ў галаву прыйшло — прадаў ён тыя Сабілкі. А на выручаныя грошы купіў грамафон.

Бывала, расчыніць акно, паставіць на яго тую скрыню з трубой — і грае на ўсе Кушляны. А людзі з поля ідуць і смяюцца: «Гэта не

грамафон іграе, гэта Сабілкі галосяць». І іначай, як «сабілкамі», грамафон той у Кушлянах і не называл! Смяяліся, што гаспадар зямлю на скрыню з трубою памяняў.

## СКОКІ З МАДЭРАЦЫЯЙ

У Гінькаўшчыне — кіламетраў за пяць ад Кушлянаў — жыла шляхта. Вечарамі яна любіла ладзіць розныя забавы, ігрышчы. Скокі там былі імпэтныя, з прыпеўкамі, вальцы з мадэрацыяй. Акурат такія, якія Багушэвіч апісвае ў вершы «Песня», — «Танцуй, гарцуй, пане».

От пайшоў пляменнік з цёткай у скокі. Пачаў ён розныя выкрунтасы рабіць, цётка аж не спраўляецца за ім. Дык ён прыпеўкай: «Ах ты, цётачка мая, круці задам, як і я». А яна яму на гэта: «Ах, пляменнічак ты мой, я не спраўлюся з табой».

## РОЗНАЯ ГАЛАВА

Быў у Смаргоні кірмаш, прадавалі шапкі, і так ужо шапкар нахвальвае іх, што нават адзін бедны мужык падышоў. Прымервае, а шапкар усё нахвальвае і не так ужо шапку, як купцову галаву:

— Як жа хораша пасуе! А галоўка якая: акурат як ксяндзоўская!

— А колькі ж вы за гэтую шапку хочаце? — пытаецца мужык.

— Пяцьдзесят тры злотыя, — адказвае крамнік.

— Не, — пакруціў галавою селянін, — мне такая шапка не падходзіць. Каб яшчэ за два злотыя, то мо і ўзяў бы.

Гэтыя словы вельмі ўгнявілі крамніка:

— Бач, чаго захацеў, шапку за два злотыя! І галава твая ніякая не ксяндзоўская. А самая што ні на ёсць сявенька мужыцкая!

## ХІТРЫ САЛДАТ

Гэта таксама было ў Смаргоні. Салдат смятану ў бабы купляў. Але не было ў яго ў што купіць, пасудзіны ніякай не меў. Дык ён што робіць? Бярэ бохан хлеба, выбірае з яго мякіш. Застаецца толькі скарынка, нібы кубак такі. І ідзе ён з гэтым кубкам на рынак смятану купляць. Падыходзіць да адной кабеты:

— Налівай, бабка, смятану, куплю ў цябе!

А пра цану не пытаецца.

Бабка наліла смятаны поўны гэны хлебны кубак, тады ён пра цану спытаўся. Тая назвала кошт.

— Ой, не, бабка, — кажа салдат, — дорага. Выліваю смятану назад. — І выліў.

Ну, вядома ж, добрая доля смятаны да скарынкі прыстала. А салдату гэтага і трэба было.

## ЗДЕСЬ НЕ БЕРЁТСЯ, ТАК ТАМ ВОЗЬМЁТСЯ...

Смаргонскі рынак даўней быў ля царквы, ля самай рэчкі. Людзей шмат. Хто купляе, хто так ходзіць. Хадзілі тут і салдаты. Хадзілі, нічога не купілі, рашылі рыбу лавіць, балазе ж рэчка блізка. Знайшлі якісь кій, у ваду апусцілі.

— Лавіся, рыба!

А людзі глядзяць, як гэта голым кіем салдаты рыбу думаюць лавіць? А тыя пастаялі крыху, пашапталіся і берагам паціху далей ідуць, месца мяняюць. Ідуць дый кажуць так, каб усе чулі:

— Здесь не берётся, так там возьмётся.

А кожнаму ж цікава, як там возьмецца. Некаторыя ўжо і ад сваіх вазоў паадыходзілі. А салдаты ўсё далей ідуць ды паўтараюць:

— Здесь не берётся, так там возьмётся.

Некаторыя цікаўныя дык і зусім забыліся, чаго на рынак прыехалі, і за салдатамі ўсё далей следам. Але адна кабета апомнілася, што воз кінула без нагляду. Прыбегла, аж там пуста: ні сыру, ні масла, ні смятаны. Здагадалася, што значаць салдацкія словы. А яно што было: адзін ці два адыходзілі, а іншыя цікавалі, хто свой воз пакіне, і пахапалі тавар.

## ЯКОЕ ПЫТАННЕ, ТАКІ АДКАЗ

Ідзе дзядзька на кірмаш. А быў ён з Янушоў. Ну, ведама, як даўней на кірмаш хадзілі. Дык і гэты такі ідзе — спаважны, святочны. Кашуля белая, кутасом падпаясаны, але падпаясаны надта ж нізка. Нехта яму напаткаўся на дарозе ды пытае:

— Янук, дзе гэта ты падперазаўся?

А ён, вокам не міргнуўшы:

— А ў Янушох.

## ВОСЬ ТАБЕ І ВУЧОНЫЯ...

Кабета з Трыколяў — гэтыя Трыколі з Багушэвічавага акна відаць — паехала неяк у Вільню. Пакуль хадзіла ды бегала па той Вільні, дык і зблудзіла, пачала дарогу дадому напытваць. Ды не каб спытацца

пра Смаргонь ці Ашмяны, дык яна пра Трыколі пытае. А ўсе рукамі разводзяць: ніхто не чуў такой назвы і дарогі ў той бок не ведае. Абурылася кабета:

— Вось табе і паны, вось табе і шляхта, вось табе і вучоныя! Панадзявалі, панакладалі на сябе чорныя капоты, а дарогі на Трыколі не ведаюць!

## ДЗЕ ХТО БЫЎ

Разгаварыліся двое, дзе хто ездзіў, дзе хто быў. Адзін — а быў ён беларус — дый кажа па-польску:

— Я вшэндзе быў...

Гэта значыць, я ўсюды быў. А другі — ці не вельмі зразумеў, ці прыкінуўся, што не разумее, яму на гэта:

— А я яшчэ трохі і далей за вшэндзе быў — кіламетраў так за сорак.

## ПШЭДЗІХА З КЕДЗІХАЙ

Не любілі кушлянцы розных пярэваратняў ды здрайцаў. З прыроды не любілі яны і людзей, якія нявечылі нашу мову, ненатуральна наварочвалі сябе ў іншую. Такіх людзей яны пазначалі якім-небудзь трапным словам з іхняй жа гаворкі. От і ў Кушлянах жылі дзве такія кабеты. Адну звалі Пшэдзіха. Яна часта ў сваёй гаворцы да беларускіх слоў прыстаўляла польскі прыдомак «пшэ». «Пшэтрэба», — казала, хоць на гэта не было ніякай патрэбы. Таму і Пшэдзіха. Другую звалі Кедзіха. І ўсё з тае ж прычыны. Замест беларускага «калі» казала «кеды». З гэтага і пайшла назвіска Кедзіха. З гэтымі назвіскамі яны і век звекавалі. З імі і змерлі. Але і пасля смерці іх інакш не ўзгадваюць: Пшэдзіха ды Кедзіха.

Тая назвіска, якой народ ахрысціць, мацней за касцельную ці царкоўную.

## ПРА ШТО КАМУ ДУМАЕЦЦА

Даўно тое было. Старая баба ды закахалася ў маладога. Ну і што — не дае спакою ёй гэтая любоў. Пайшла яна да ксяндза, каб той парадзіў, што ёй рабіць. Ксёндз: «Ідзі ты, кабетка, паслухай, што званы табе скажуць». Пайшла яна і слухае. Ёй здалося, што яны вызвоньваюць: «Ідзі за Яся, ідзі за Яся!..» Прыходзіць да ксяндза,

кажа: «І званы, ксёнжа, кажуць: — Ідзі за Яся». — «Ну што рабіць, кабета, — кажа ксёндз. — Раз кажуць, дык ідзі».

Тады якое жыццё было старой з маладым? Пачаў ён яе трохі як старую не шанаваць. Пайшла яна зноў да ксяндза: «Што рабіць, ксёнжа, — няма жыцця». Ксёндз радзіць: «Зноў ідзі паслухай, мо не так званы званілі». Пайшла яна і слухае. А званы звоняць: «Глупе баба, глупе баба». Вярнулася яна і кажа: «І праўда, ксёнжа, сёння званы званілі не так».

## БЛІНЫ-БЛІНЫ — БОНДАЧКІ...

У нашай вёсачцы жылі каталікі. Былі і праваслаўныя. Ну і спрачаюцца між сабою, у каго якія парадкі, чые парадкі лепшыя. У касцёле, калі званы звоняць, то вызвоньваюць: «Хлеб з аўсом абы быў, хлеб з аўсом абы быў». А як у царкве зазвоняць, дык зусім інакшы спеў: «Бліны-бліны — бондачкі, бліны-бліны — бондачкі!..» То ў каго ж парадкі лепшыя?

## ЖАНОЧЫ РОЗУМ

Пайшлі дзве кабеты ў касцёл. Прыгатавалі па пяць капеек. Хацелі ўжо кідаць свае ахвяраванні ў скарбонку пры дзвярах, ды адна з іх кажа:

— Марцэлька, хадзем да Найсвянцейшай Маткі Боскай. Кінем ёй. Усё ж яна кабета. А кабета за кабету то лепей пацягне, калі што якое.

## ПАРАБКОВАЯ ФОРМУЛА

Неяк адзін дзяцюк наняўся да фальваркоўца ў парабкі. А трэба было якраз гной вазіць. Дык гаспадар прывёў парабка да хлява, даў у рукі вілы і кепліва пытаецца:

— А ці ведаеш, мужычок, як гэта рабіць?

— А ведаю, — кажа той. — У нас адна навука. Яшчэ дзед вучыў: бяры вілы, напінай усе жылы, падымай вышэй носа і накідай на калёса! Ці так, пане?

— Так, так, — адказаў той, задаволены, што яму трапіўся такі парабэчак, які можа не толькі працай, але і словам пацешыць.

## БІЦЦА НЕ ДАМСЯ І ЦАЛАВАЦЦА НЕ ХАЧУ...

Гэта цяпер рэдка дзе на вёсцы стрэнеш жабрака. А даўней шмат іх тут хадзіла. Паначапляюць крыж-накрыж белыя кайстры і з вёскі ў вёску, з двара ў двор. Многіх з іх зналі: гэты з Кеўлаў, той з Стымоні, гэты з Лылойцяў... Пра жабракоў шмат засталося розных гутарак, быляў. От адна з іх.

Сляпога жабрака вадзіў унук, гадоў на шаснаццаць, пад дзецюка ўжо браў. Вось ідуць яны. Аж той дарогай некуды ішла кабета. Сляпы чуе, што нехта ідзе, і пытаецца:

— Унучак, хто пайшоў?

— Кабета.

— А ці файная?

— Вельмі.

— Дык дагані!

Ну, унук кінуўся даганяць. А стары стаіць і разважае:

— От каб дагналі, то і пацалавалі.

Аж гэтыя словы чуў другі падарожны. Ён ішоў ціха з кійком. Дык той падарожны кійком жабраку між плечаў:

— Ах ты старая падла! Бач чаго захацеў — цалавацца... Дык жабрак адступае, адступае, кіем сваім бароніцца, засланяецца да прыгаворвае:

— І біцца не дамся, і цалавацца не хачу. Бог з табой, чалавеча.

## А ТЫ, БЕЛЫ, ДА КАБЕЛЫ...

Жабракі былі ўсялякія. Былі і такія. Нажабруюць хлеба, сядуць ля рэчкі і хлеб той нажабраваны перабіраюць. Пра белы яны казалі:

— Ты, белы, ідзі да кабелы, — і клалі ў торбу. — А ты, чорны, плыві зноў на жорны, а як ты чорны, дык пакуль тыя жорны, перад тым памыйся... — І ў ваду яго, і ў ваду.

Жабракі былі вельмі цікавым тыпам людзей. У іх быў свой жаргон. Торбу, скажам, называлі кабелай.

## ВІСЯЧЫ

На Вялікдзень хадзілі валоўнікі. Хадзілі ўвечары. Падыходзілі пад вокны і спявалі «Хрыстоса». От да аднаго гаспадара таксама прыйшлі валоўнікі ў двор. І заспявалі. Аж адзін валоўнік зірк — і бачыць: на шастку пад страхой сушыцца кілбаска, пальцам пханая, сыр, кумпячкі. Дык ён замест «Хрыстоса» зацягнуў: «Ці бачыш, браце, што

вісіць пры хаце?» Другі яму на гэта — таксама нараспеў: «Бачу, бачу — вісяць вісячы, здымем, дадому ідучы!» Праз нейкі час гаспадар агледзеўся, успомніў, пра якія «вісячы» спявалі валоўнікі, ды ўжо было позна: валоўнікаў і след прастыў.

## СЛОВА — НЕ САЖА...

Шляхетны люд жыў у Кушлянах. Шляхетны быў ён і на слова. Але ўсялякае здаралася. Як толькі якая сварка ці звадка, тады слова над Кушлянамі жыхала і грымела:

— А каб твая жонка ў жніво абрадзілася!.. А каб твая печ у Каляды развалілася!

Не было для гаспадара страшнейшых праклёнаў, як гэтыя. Праўду кажуць: «Слова лечыць, слова і калечыць. Слова — не сажа: не заб'е, дык замажа!» Ах, каб цябе халерачка!

## ШЛЯХЦІЦ

Сустракаюцца двое: сялянін і шляхціц. Сялянін:

— Дзень добры, панок!

Шляхціц:

— А як ты пазнаў што я пан?

Дык кемны мужычок яму на тое:

— Як жа вашасць не пазнаць: у вашасці лоб нізкі, нос слізкі — відаць, што лізаў чужыя міскі...

У Кушлянах пра такіх панкоў казалі: «Сядзіць на фальварку — ані лыжкі прыварку». А прыварак — гэта мука з дзёртага ячменю.

## ПАКУЛЬ ДАЕХАЎ...

— Ты ездзіў у Крэва?

— Ездзіў.

— Ну і як з'ездзілася?

— А не пытайся, браток! Пакуль даехаў да Крэва, адбіў увесь зад аб дрэва, такія там карнявішчы на дарогах.

## КУШЛЯНСКІЯ ДЫЯЛОГІ

* * *

— Адкуль ты, дзеўка? Ці не з Багуш?

— Ага, з Багуш.

— А кросны ткаць умееш?
— Няўжо ж.
— А замуж хочаш?
— А чаму ж...
— То ў Кушляны пойдзеш?
— Калі возьмеш.
— Ну то пайшлі разам. У Кушлянах усяго багата: вады хоць заліся, камянёў — хоць забіся, дроў — хоць спаліся.

* * *

— Добры дзень, суседачка! Як здароўечка?
— А хай яго ліхачка! Усё роўна як кушлянская дарога: то на ніз, то на гару.

* * *

— Чуў, браток, што ты ажаніўся. Што за жоначку сабе ўзяў?
— А вельмі файная: поўная ложка і яшчэ з краю трошка.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ...

Жылі ў Кушлянах муж з жонкаю. І надта ж не ладзілі. А найболей свет гарэў з жонкі. Калашмаціла яна свайго мужыка чым папала. Пра гэта ведаў сусед і калі заходзіў у хату, то так вітаўся:
— Дзень добры ў хату! А ці не біла сёння мама тату? Найчасцей на сваё вітанне чуў ад гаспадара:
— От дала, дык дала! З печы злезці не магу!..

## СУСТРЭЧА

Сустракаюцца два знаёмыя, але не вельмі каб вялікія сімпатыкі. Адзін:
— Даўно не бачыліся!
Другі:
— Даўно не бачыліся, але дрэнь, што і забачыліся.

## БОЖЫЯ ЛЮДЗІ

* * *

— Ты хто — каталік ці праваслаўны?
— Каталік. Але адзін толькі лік — пацеры не ўмею.
А ты хто?

— А я ні той, ні другі.
— Але ж так не бывае.
— Чаму не бывае? Бывае. Я проста Божы чалавек.

* * *

— Чаму, куме, да касцёла не ходзіш? Як табе не брыдка?
— Ото ж мая жонка як раскрычыцца, дык я званоў не чую…

* * *

— Ты ў царкву ці касцёл ходзіш?
— Не, нікуды не хаджу. Ні ў царкву, ні ў касцёл.
— А чаму?
— Жонка мая ходзіць і пра ўсё мне расказвае.
— От яно што!

* * *

— А сусед ваш набожны?
— Набожны. Але які: у касцёле памаліўся, а з касцёла выйшаў і на Бога забыўся.

## РАБІ СВАЁ

Кабета, паміраючы, казала свайму гаспадару:
— Ты глядзі, Яська, тыя дзвесце злотых, што ўзялі за ялаўку, каб ты, кунечна, аддаў на касцёл.
Муж супакойвае:
— Ты, Агатка, рабі сваё, а я не хібну. Некуды ж прымяркую я твае злотыя.

## ХТО ТАКІЯ?

Сустракаюцца двое састарэлых. Абодва адзінокія, удаўцы. Адзін пытаецца:
— Чаму не жэнішся, Міхась?
— Ды ў прымы збіраюся.
— А да каго?
— Можа, да пані Глінскай… А можа, да пані Пясецкай…
— А хто ж гэта за такія?
— А тыя, што з зямелькай заручаюць…

## АДРАЗУ Ў РАЙ

— Хто ў нашага ксяндза год праслужа, то ў чыстцы не будзе. Адразу ў рай трапіць.

— А чаму так?

— Ды тое пекла ён у ксяндза адбудзе...

## БІСКУП І САБАЧКА

У адно мястэчка прыехаў біскуп. Дачулася старая бабка, сабралася, надзела новыя панчохі, лапцікі, новую спадніцу і падалася да касцёла, каб паглядзець на яго. Хадзіла, хадзіла, і ў касцёле была, а біскупа не ўбачыла. Засмуцілася бабка, ды раптам бачыць: стаіць карэта, запрэжаная ў два кані, дый важны фурман на козлах сядзіць. Падышда бабка дый пытае, ці праўда, што біскуп прыехаў, фурман цвердзіць, што праўда.

— Як бы гэта хаця паглядзець на яго? — пытаецца бабка.

— Ну, што ж, — кажа фурман, — паглядзі. Укленчыла бабка дый пачала маліцца, а ў карэце сядзеў біскупаў сабачка. Адчыніў фурман дзверцы, сабачка выскачыў дый да бабкі. Сумелася бабка:

— А мой жа ты фурманок, ці грэх, ці два, ці грашу, ці брашу, а біскуп, як сабачка...

## АБМЫЛКА

Везлі багатага хаваць. То ксёндз загадаў званару ва ўсе званы званіць. А за багатым следам беднага везлі. Але званар не расшалопаў ды і па бедным ва ўсе званы адзваніў. Дык ксёндз надта незадаволены быў: грошай мала, а пашана вялікая.

## ЧОРТ І ЛАТЫНЬ

— На латыні латвей пацеры казаць.

— А чаму?

— Чэрці ад латыні ўцякаюць. Нячысцікі латыні баяцца.

## ЛЯ ЦЫБУЛІ ВІСЕЛІ...

Вяртаецца Ясюк з кірмашу. Вясёлы, у гуморы. Боты цераз плячо. Чысценькія, дагледжаныя, сухенькія.

— Яська! — дзівіцца ягоны сусед. — Як гэта табе ўдалося ля Крэва багну абысці, што боты твае нават не запыленыя?

— А яны ў мяне ля цыбулі вісяць, — кажа той, — у іх такая клімата. Багну я босы перайшоў. А чобаты свае я абуваю перад самым кірмашом. Таму яны ў мяне такія чысценькія, сухенькія...

## МАЛІТВА БАГАЦЕЯ

Напаткаў бядняк у полі двух быкоў. Ад статку адбіліся. Падумаў бядняк, што іх могуць ваўкі з'есці, і пагнаў у свой двор. Багаты сусед пытаецца:

— Адкуль у цябе быкі?

— Бог даў!

— А дзе Бог?

— У полі на дрэве, у лісці схаваўся.

Пабег багацей пад дрэва, разаслаў дыванок і давай маліцца:

— Бог, падары мне быкоў.

А бядняк узлез на дрэва ды адказвае:

— У цябе і так хапае. Раззлаваўся багацей:

— Калі так, не буду я больш ні маліцца, ні пасціцца.

## ЧМУРА

Сустракаюцца двое на паляванні. Аднаму з іх спадабалася стрэльба другога.

— Давай мяняцца!

Памяняліся. Разышліся. Пераначавалі, назаўтра прачынаюцца, а ў парозе не стрэльбы, а па конскай назе ў кожнага стаіць.

## У ЛАЗЕ

— Бабунька, а дзе жыве кушлянская Баба Яга Кастдяная Нага?

— А ў Ваўкелах, унучак. Хіба ты ні разу не бачыў? Яе хатка ў самай лазе на адной назе...

## КУПІЎ БЫ КАНЯ...

— Ясюк, чаму ты не купіш сабе каня?

— Купіў бы каня, ды хлява няма.

## ГОНАР

Ішоў шляхціц з мястэчка. Аж едзе мужык на кані. Мужык і кажа з шчырага сэрца:

— Пан, сядай, падвязу! А шляхціц ганарліва:

— Едзь, псякрэў! Мужык будзе мяне везці!

## ТРОШКІ ПАСПАЛА

Была баба лянівая. Прыйдзе ў поле жаць — паглядзіць-паглядзіць наўкола, і здаецца ёй, што няма чаго тут рабіць. «Вось гэта заўтра зраблю, а гэта потым. А на сёння няма чаго рабіць. Лягу я лепей спаць».

Легла яна галавою да сонца і праспала да самага вечара, а ўстала — бачыць, што сонца ўжо ў яе нагах. Здзівілася яна, пайшла дахаты і пытае:

— Юрка, а Юрка, ты быў у полі?

— Не, не быў.

— А хто ж тады мяне ўвярнуў? Лажылася ж я галавой да сонца, а ўстала — яно ў нагах.

## ТРУЛА

— Што ты ходзіш, як тая трула?

— Я не трула. Я проста змаркочаная. Котка жбанок разбіла, смятанку злізала, а на мяне сказала...

## НЕДАПЁКЛАЯ

У аднаго чалавека была дачка. Пара яе замуж ужо аддаваць, да шлюбу рыхтаваць. Але ўдалася яна вельмі недалёклая. І картавіла, і слепаватая. І на адно вуха глуха, і на адно вока недалёка. Ну хто на такую паквапіцца? Хто такую возьме? Каму з такой радасць? Але бацькі не трацілі надзеі. Людзі яны былі багатыя. Можа, хто на іхняе багацце клюне. Даўней за гэтым ганяліся. Рыхтуюць дачку на выданне. А каб пра заганы яе не даведаліся, змаўляюцца пакласці пад парог іголку. Як толькі сваты прыедуць, бацькі зачнуць гаворку пра іголку і спытаюцца ў дачкі, ці не бачыла яна тае іголкі, дык яна скажа: «А хіба мама ды тата не бачаць? Вунь яна з-пад парога блішчыць!..»

Сваты і падумаюць: «Ах, якая зоркая нявеста!»

Такую ж змову яны зрабілі і на грэбень.

Вось прыехалі сваты. Бацькі і пытаюцца ў дачкі, ці не бачыла яна таго грэбня. Ёй трэба было ўсяго толькі адно слова сказаць: бачыла. А яна як затараторыць:

— У камардзіне за дзвярэдзі ў расшчопане тэрчыць...

Пераглянуліся сваты: «Э, нешта тут не так, нешта тут не тое». За гарэлку сваю ды з хаты. Бачаць, нейкая недапёклая.

## РАЗВАРАЖЫЛАСЯ

Збіралася дзяўчына замуж. Ходзіць па хаце і варожа:

— Сёння чвартак — у Ашмяне кірмаш. Заўтра — пятнічка, а там — суботка. А за ёй і нядзелька: будзе маё васэлька (вяселле) і лопне мая пяцелька.

Варожа так дзяўчына, ходзячы па хаце, а таго не ведае, што дзед сядзіць на печы і ўсю яе варажбу чуе, слухае — і дадае:

— Глядзі, каб твая галава не лопнула. Як Ясюк грошай не пазыча, дык тваё васэлейка ў носе ўсім заказыча.

## ДАЙ БОЖА...

Заходзіць жабрак у хату, а там дзеўка. Дужа ж ёй замуж хацелася. А даўней старцам вельмі верылі. Лічылі іх богавымі людзьмі. Дала яна старцу з шчырасці ўсё, што мела, што магла, дый просіць:

— Маліся, дзядулька, да Бога, каб я замуж барджэй выйшла.

Узяў старац ахвяраванне:

— Дай, Божа, каб яно так было, як ты гэтага хочаш, мая ты дзяўчынка, але й не ведаю...

## ОТ З ІМ І ЕДЗЬ...

Ладзілася вяселле. Ужо і да шлюбу ў касцёл трэба ехаць, а малады ўсё з цесцем таргуецца: ці аддасць цесць у пасаг свайго жарабца. І ўсё гэта пры маладой. Дык маладая зняла з сябе вэлюм ды каню на пысу:

— Вось з ім і едзь да шлюбу, калі адзін ён табе ў галаве!

## ДЗІЎНЫ СВЕТ!

Кушляны. Тут і салоўкі па-свойму спяваюць. Прыслухайцеся:

— Даганю, даганю... Павалю, павалю, павалю... Спаднічку задзяру, задзяру, задзяру... Пік-пік-пік! Цох-цох-цох! Шпок-шпок-шпок! Лі-лі-лі! Цівалі, цівалі, цівалі... Ах! Ах! Ах! Які радасны свет!

## ШТО З ТАГО?

— Ну і парадак у цябе, кум, як у Баброўскага на печы.

— Парадак ці не парадак, але і ў гэтым беспарадку ёсць свой парадак. Сам Пан Бог у нас ходзіць — парадачак водзіць.

— Бог то Бог... Але гора таму, калі няма парадку ў даму. У тваёй жа хаце нячысцік галаву скруціць.

— Хто яго ведае: мо твая праўда. Дык што з таго?!

## СЛІВЫ ЗА СМЯЦЦЁ

Вельмі не пашчасціла аднаму чалавеку на жонку. Не любіла яна наводзіць парадак у хаце. Куды ні зірнеш — у кожным куце смяццё, а ў качарэжніку, як у той Багушэвічавай дзядзіны грэчкі, смяцця цэлы стог. Колькі разоў гаспадар сам наводзіў парадак у хаце, хацеў перайначыць гаспадыню, але тая надта ўпартая была. Тады ён надумаўся ўзяць нявестку з такой хаты, дзе чысціня і парадак. І што ён робіць?

Набраў воз сліваў і паехаў прадаваць за смяццё. Прыехаўшы ў вёску, пачаў: «Слівы за смяццё прадаю!» Гукае на ўсю вёску, акурат як некалі гукаў смаргонскі анучнік Гэйля: «Бабы, бабы! Анучы да кучы!» Бабы замітусіліся, кажуць адна адной: «Нейкі дурань прадае слівы за смяццё», і давай завіхацца, падмятаць хаты ды выбіраць тое смяццё, што ў качарэжніку ляжала, не вынесенае з хаты. Адна набрала цэлы ворак (мяшок), другая — цэлы кош, трэцяя — поўны фартух, і спяшаюцца за смяццё купляць слівы. І толькі адна дзяўчына прыносіць усяго толькі жменьку смяцця. Глянуў дзядзька на яе і кажа: «Чаму ты, донька, так мала смяцця прынесла?»

А тая адказвае: «Дзядзечка, у нашай хаце няма смяцця, наша мама не любе, каб у хаце было брудна і нас вуча, каб любілі чысціню. Дый гэтае смяццё не з нашай хаты — яго мне дала суседка за тое, што я ім памагаю хату падмятаць».

Усміхнуўся мяняла:

— Колькі смяцця — гэтулькі і сліў.

Але надта ж яму спадабалася гэтая дзяўчына, дык сліваў ёй не пашкадаваў. Распытаўшыся, чыя яна, сказаў: «Хацеў бы, дачушка, каб была мая такая нявестка», — і паехаў дахаты замаўляць сватоў.

## ПАРАДЫ

— Ну, што, пане, усё гуляеш? Гуляй, гуляй! Гулі ўжо не аднаго разулі! Праў і ты свае гулькі — будзеш без кашулькі. Гулі не аднаго ўжо ў лапці абулі.

## ЕЖ — НЕ ПАКЛАДАЙСЯ...

* * *

— Што ты ясі?
— А што далі, тое і ем. Мне хоць воўна, абы еча (кішка) была поўна...
— Ну то еж, наядайся — не пакладайся, каб пасля не гаварыў... Сыці, Божа!

* * *

— Калі чалавек сам сябе калеча?
— Калі пад'еў, поўная еча, а ён усё яшчэ есць ды есць.

* * *

Не еў — не мог, а як пад'еў — ні рук, ні ног.

## АБАРАНАК НА СНЯДАНАК

— Ну, што ў нас сёння на сняданак?
— Гарбата і абаранак.
— І ўсё?
— А чым кепскі сняданак — гарбата і наш смаргонскі абаранак? Як упляцеш хамуцік ці вязку — будзеш сыт па самую завязку. Еж і спажывай абаранкі. Абаранкі — не забаўлянкі. З мёдам, з макам, з такам. Гарбата і абаранак — дужа добры для смаргонцаў сняданак. Смаргонцы без абаранкаў, што цыганы без танцаў.

## КУЛЯНЫЯ ЯЙКІ

Гаспадыня госцю:
— Яешню, васпане, будзеце есці?
— А бадай што буду.
— А як вам яе згатаваць? Жаўткамі ўгору ці кулянымі?

— Кулянымі — гэта як?
— А гэта яешня, печаная з абодвух бакоў.
— Тады давайце куляныя...

## НЕ З'ЯСІ, ДЫК І НЕ СКОЧЫШ

Дзяцей заахвочваюць да ежы. Так было даўней, так яно ёсць і зараз. Па-рознаму гэта робіцца ў розных мясцінах. У адных дзецям кажуць, што на дне талеркі пад крупнікам ці кашай стаілася сіла. Хто хуценька і чысценька з'есць, той будзе вытрывалы і дужы. У іншых мясцінах кажуць, каб так наядаліся, каб жывоцікі былі тугія, як лобік: «Каб тут было, як тут!»

У Кушлянах жа:

— Еж, наядайся, а то праз палку ў мяне скакаць будзеш. Не наясіся — палку не пераскочыш. А палку падымаць досыць высока будзем!..

## З ЗВАНКОМ НЕ З'ЕСЦЬ...

Даўней кушлянцы ў лясах ды хмызах часта быдла пасвілі і, каб каторае з іх не згубілася, не адбілася, на шыю званочкі навязвалі. Казалі: «Воўк цёлку з званком не з'есць». То яно і праўда! Навошта ваўку цёлку з званком есці? Ён званок выплюне...

## СОЛЫ

— А чаго гэта ты сёння, васпане, такі васолы (вясёлы)?
— Быў бы ты васолы, каб схадзіў у карчму ў нашыя Солы!

## СЛУХАЙ МЯНЕ...

Ехалі двое ў Ашмяну. Ехалі не гасцінцам, не бітым шляхам, а ўсё ляснымі ды блытанымі дарогамі. Адзін з іх трывожыўся, хваляваўся, а ці так яны едуць, ці ў тым накірунку. А другі суцяшаў-супакойваў:

— Не хвалюйся, не турбуйся! Слухай мяне — і мы будзем у Ашмяне!

## ЯКАЯ ТАБЕ ВЕСЬ?..

Вёска Гінькаўшчына была калісь аколіцай. Тут скрозь жыла шляхта. Яна і сваю аколіцу называла па-шляхетнаму — Гінькаўшчызна. От

адзін чалавек чагось тут ішоў. Быў ён не тутэйшы дык зблудзіў. Зблудзіў і пытаецца ў першага стрэчнага гінькаўца, якая гэта будзе весь. Гэта дужа абразіла гінькаўца.

— Якая гэта табе, пан, весь?! Хіба пан не бачыць, што гэта аколіца, а не весь? Калі пан яшчэ будзе называць нашу аколіцу весь, то тады ён проста дурань увесь. І не скажу табе нічога, хоць у дупу лезь!

## Я З КУЛЬ...

Паблізу радзінных Багушэвічавых Свіранаў з даўніх часоў на пагорачку, як на бохане хлеба, сярод нізовін і балацянак, прымасцілася невялічкая, на колькі двароў вёсачка Кулі. Вёсачка як вёсачка. Маленькая, утульная, мірная. Ціхмана глядзіць з пагорка на Свіраны. І назва яе простая, выразная. Але от праз гэтую назву ледзь не ўсчалася цэлая вайна. Неяк гэтымі мясцінамі ішоў польскі жаўнер. Аж трапляецца яму кулёвец. Дык той польскі жаўнер і пытаецца:

— Сконт пан?

А той адказвае:

— З Куль...

— Сконт?

Жаўнеру надалося, што з яго пасміхаюцца, вучаць яго. Гэта зачапіла жаўнера. Ускіпеў ён, ледзь не за грудкі хапае таго кулёўца.

— Сконт пан? — І на псямаці пераходзіць.

— Не вем, — кажа кулёвец, — чаму пан псяmaціць. Я ж кажу: з Куль я. З Кулёў. Калі пан не верыць, то пайшлі ў вёску... Там усе пану скажуць, што я з Куль...

Гэтак і разышліся, не паразумеўшыся.

## МАРГІ ДЫ ГОНІ...

Тугэйшымі пуцявінамі вандраваў колісь нейкі замежны залётнік. Каб не зблузіць, пытаецца ў першага стрэчнага:

— Пане, а ці даеду я гэтай дарогай да Смаргоні?

— А бадай што даедзеце, — кажа той. — Паедзеце проста... Мінеце гоні... Пасля яшчэ адны гоні... Затым будуць маргі... І далей таксама маргі ды гоні. Дык гэта якраз ўжо будуць нашы Смургоні.

## ГАСЦІНЕЦ

— Ты ў Смаргонь паедзеш?

— Паеду.

— А на рынку будзеш?

— Буду.

— То прывязі мне адтуль гасцінца: вялікага-вялікага, як хамут, абаранка. Надта ж я такія смакую. То-то-то...

## ВЫКАВАЎ НА ПАМЯЦЬ

— А кім рабіў ваш чалавек?

— Кавалём. Ён у мяне быў за каваля.

— І што ж ён выкаваў вам на памяць?

— Што ж ён выкаваў? От так на разе і не прыпомніш. Хаця чакайце... А такі выкаваў — аж дванасце дзетак! От які быў у мяне каваль! І ў кузні каваў... І дома не спаў, не драмаў...

## НА СУДЗЕ

Суддзя ўдакладняе ў сведкі:

— А калі, скажыце, пані, тое было?

— Ды надвечар! Якраз такою парою, калі вечарэе, калі на змрок бярэцца, калі баба качаргою можа сонейка дастаць.

## КРЭЎНЫЯ

— Вы ж, здаецца, нам якіясь сваякі?

— Ну, але так... Мой дзед тваёй бабцы грушкі насіў у шапцы... От якія мы з табою крэўныя...

## ШРАМОК

Жылі-былі два сябрукі, два дружбакі. Жылі дружна, ладзілі адзін з адным. І от аднаму з іх трэба было ў рэкруты ісці. Аднак з нейкай прычыны ён не хацеў у тыя рэкруты. Ды давай прасіць свайго сябрука — зрабі мне тут і тут ранкі. Гэта каб яго ў тыя рэкруты не ўзялі, не забралі. Той пачаў аднеквацца: як гэта, каб я свайму лепшаму сябруку ды ранкі рабіў?

— От таму я цябе як лепшага сябрука і прашу, а не каго-небудзь іншага.

Гэта ўсё чула сябрукова жонка. Слухала яна, слухала гэтую гамонку ды як узышлася:

— На што ты яго падбіваеш? Чаго ты да яго прычапіўся? Што ты ад яго хочаш? Шыбенік ты гэткі! Бязбожнік! Скрутнік! Езуіт! Такі, сякі ды гэтакі...

Ну што, зрабіў сябрук гэны шрамок. Зрабіў удала. І жывы дружбак застаўся, і ў рэкруты не трапіў. Мінула колькі часу. Нідзе следу таго шрамка няма. Дык той, што прасіў ранку зрабіць, і кажа:

— От, бачыш, тыя ранкі, што ты рабіў, даўно зацягнула. Ніякага следу не відаць. А от тыя словы, якія твая жонка языком намалола, дык цяпер мне смыляць.

## ЯК З ІМ РАЗУМЕЦЦА?

Было тое ў нейкую вайну. Жылі тут палоненыя аўстрыякі. І от адзін з іх убіўся ў давер да адной тутэйшай маладзіцы і змайстраваў ёй маленькага. І тады што? Па нейкім часе вяртаецца з вайны і гаспадар тае маладзіцы. Жывы, здаровы. Дачуваецца ён пра дзіця.

— Не буду, — кажа ён сваей жонцы, — з табою жыць, раз ты так зрабіла.

Аж мусілі ісці па згоду да ксяндза. Праз ксяндза жонка гэнага свой клопат улатвіць хоча. Ксёндз і кажа:

— Чалавеча! Кабета нявінная! Вінаватая вайна ва ўсім. Каб не вайна, каб ты пры ёй быў, то хіба гэтак сталася? Не, ніколі! А так праз вайну гэтую твая кабета ўлезла ў пшчомцы да чужога мужчыны. Даруй ёй.

Падумаў гаспадар і кажа:

— Я то ёй дарую. Але адно мяне пячэ: як я буду з тым аўстрыякам, каб на яго ліха, што народзіцца, разумецца?

## КСЁНДЗ КАЗАЎ

Ксёндз дачуўся, што хлопцы ходзяць да дзевак на сена спаць. От аднаго разу ксёндз і кажа з амбона:

— Хлопцы, хлопцы, не хадзіце па начах да стадолы!

І тады што? Бацька аднаго з гэных хлопцаў прыехаў з кірмашу досыць пазнавата. І пасылае сына нечага схадзіць да стадолы.

А сын яму на гэта:

— Татка, схадзі сам. Хіба ты не чуў, як ксёндз з амбона казаў, каб хлапцы не хадзілі па начах па стадолах?

## ЧУБ

Зваўся хлапец Якуб. Быў гэты дзяцюк добры зух! І надта ж ён меў файны чуб. За такі чуб кабеты міла дапускалі яго да сваіх губ і ўсё казалі: «Ах, Якуб! Ах Якуб! Які ж ў цябе пекны чуб!»

## ВІНО

Кажуць, віно бадзёрыць, віно маладзіць! Гэта ўсё так! Але няма такога малайца, каб быў мацнейшы ад гэтага вінца.

## ЛЫСЫ ЛЫСАМУ

Адзін чыста лысы ўзяў ды назваў паўлысага лысым. Слова за слова — схапіліся загрудкі.

— Які я табе лысы? — казаў паўлысы. — Як ты мог на мяне такое казаць? Ды ў мяне на галаве дваццаць адна валасіна — сем радкоў па тры валасіны ў кожным радку! А ты кажаш — лысы. Сам ты лысы!

## БАРАДА

— А ці насілі даўней кушлянцы бароды?

— А як жа, насілі. У нас казалі: «Чалавек без барады, што чорт малады». Насіў бараду і наш Мацей Бурачок. Хадзіў з барадою і ягоны бацька. І дзядуля. У нас у Кушлянах і файную песню пра бараду спяваюць.

Ажаніўся Ясь са мною —
Барзда ж маладою,
Ох, й не ведала,
Што ён з барадою.
*Прыпеў:*
Так жа ж мне тошна,
Так жа ж мне трудна,
Што мой Ясь з барадою —
Зза ім жыці трудна. *(2 разы)*

Прадам куры, прадам гусі,
Качкі ды індыкі.
Куплю сабе чорну сукню,
Пайду да ўладыкі.
*Прыпеў.*

Ой, пайду я да ўладыкі,
Уладыкі прасіці,
Ці не прыйдзе ўладычанька
Бараду галіці.
*Прыпеў.*
Запрасілі ў хрысціны
І сказалі сесці.
Як я гляну на бараду,
Аж не магу есці.
*Прыпеў.*
Як выйшла з-за стала,
Пайшла я з ім спаці.
Як прыціснуў барадою —
Не магу ўстаці.
*Прыпеў.*

## БУЛЁН

Прыйшоў чалавек у госці. Частуюць яго булёнам. Дык ён кажа:
— Дома булён і ў гасцях булён! Давайце біч, булён буду біць, каб ведаў, што я госць!

## КУРЧАТКІ

— Як ваша квактушка? Курчаткі ўжо вывела?
— Ды пакуль не, хоць ужо і пара.
— А вы яйкі на скрыпачцы зайгравалі?
— Ды не. А што — хіба трэба было?
— А як жа! Заморка ніводнага б не мелі. Усе да аднаго вывеліся б. А так на Бога спадзявайся...

## ТРАХІМЫ

— Ты адкуль?
— З Трахімоў.
— Адкуль, адкуль?
— Кажу — з Трахімоў.
— А-а. З Трох Хамоў.
— Сам ты хам!
— Але ж я не з Трахімоў!
— Калі не з Трахімоў, то ідзі, куды ідзеш і не муці нам нашае чыстае трахімоўскае вады.

## ХТО АДГАДАЕ — ПРА ШТО БАЕ?

Зачынаецца раніца, бярэцца на досвітак. У хаце чуваць галасы. Адзін кажа: — Світай, Божа!

Другі, спалохана:

— Не дай, Божа!

— А мне ўсё роўна, што дзень, што ўночы — стой, вылупіўшы вочы.

Адгадка: ложак, дзверы, вакно.

## ЗАГАДКА НА СЛЫХ

— Вёз чалавек дошкі, а дошкі яго з елі. Як вы гэта зразумелі?

## СКУПОТА

— Скупы двойчы плоціць.

— Гэта так. Але не ўсялякі скупы — гэта скупы. Ёсць і проста ашчадныя людзі.

— Але залішняя скупота — гэта ўсё-такі глупота.

## СОЛЬ

Купіў чалавек у местачковага купца Бэркі пуд солі. Узваліў той пуд на плечы і паплёўся дадому. Прайшоў трохі, і падалося яму, што нешта занадта лёгкі той пуд. Мусіць, ашукаў яго Бэрка, недаважыў. Хацеў ужо вярнуцца назад у мястэчка, каб выказаць сваё абурэнне Бэрку, але штось яго стрымала.

Прайшоў яшчэ вярсты тры, і тая соль яму чамусь стала падавацца больш важкай. «Бач ты, — разважаў сабе чалавек, — праўдзіва ўсё ж Бэрка пуд солі мне наважыў, а я хацеў з ім ужо вадзіцца. Добра, што Бог ад гэтага абярог».

## ЛАШЧАВЫ

— А што гэта Юзука ў бакі водзіць? Ці не захварэў?

— Ды не. Проста ён лашчавы да гарэлкі. От яго і водзіць, і нудзіць, п'яныя вадуны яго водзяць.

## ЛЯЛЬКА-ЎСТАНЬКА

— А што гэта ў цябе за цацачка такая?

— А гэта лялька. Лялька-ўстанька. Бачыш, якая рухавая! Як ні павернеш — яна ўсё скок ды скок, то праз галаву ляжа, то на бок.

## ПАПЫТАК

— Юзук, ты ўсё пытаешся?

— Але, пытаюся. Хто пытае, той не блудзіць. Хто пытае — той усё знае. Папытак — не ўбытак.

## ГАСЦІНА

— От добрую ж я меў у вас гасціну!

— За такую гасціну не зашкодзіць і якую хусціну…

— Ведаю, ведаю… Дзе любяць — не часці, дзе не любяць — не гасці… І хто мяне толькі за язык пацягнуў? Лепей бы я памаўчаў…

## НА ДВА ПЁНТРЫ…

— Хадзем — пакажу табе свой дамок, сваю хатачку!

— Хадзем! Пайшлі.

— А от і мая хатка.

— Бачу, бачу… Не дом, а харом на два пёнтры (паверхі) — і абодва калом падпёрты!..

— Нічога, што калом падпёрты. Затое вольна Томку ў сваім домку! Мая хатка з масла збіта і блінам прыкрыта.

## ЛЁГКА

— Ну от, здаецца, усё зрабіла, усё парабіла, усё ўладкавала, усё папарадкавала, усіх дагледзела, усіх накарміла і як каўтун з галавы — гэтак лёгка стала!

## НА САБЕ ВЫВЕРЫЎ!..

— Як, Ясюк, маешся? Як здароўечка?

— Ды хварэю, хай яго ліхачка!

— А як лякуешся?

— Дык не я лякуюся. Доктар мяне лякуе.

— А як?
— Парашкамі ды пілюлямі.
— Ды кінь ты, Ясюк, гэтыя свае парашкі! Бяры, браце, лепей тры з перцам, тры без перцу і шэсць так!..
— І што — памагае?
— Памагае, яшчэ як — на сабе ўсё выверыў!..

## НА ЕЛЦЫ

— Ясюк, дзе ты гарэлку гнаў?
— Як дзе? У лесе, на елцы!
— Як гэта на елцы?
— А дзе ж яшчэ? Ахцызнік Яськоў шастае па лесе. Але, кінулася мне, галавы не падымае. Дык я на елцы прыладзіўся. Ганю і хоць бы сабе хны! Ніхто ж, задраўшы галаву, па лесе не ходзіць. Паспрабуй. А яшчэ на могілках добра гоніцца. Нябожчыкі памагаюць...

## КАЗАЛА ВЯЗАЛА...

— Казалі, што пане Рыбачка скарб знайшоў на Багушэвічавым полі.
— А хто казаў?
— Казала вязала.
— Пшэдзіха?
— Яна...
— Знайшоў каго слухаць. У яе заўжды сём вёрст да нябёс ды ўсё лесам.

## ПАКУЛЬ ЗНОЙДЗЕ

— Мікола, што ты ўсё шукаеш?
— Ды от кажурынку кудысь задэчыў — не магу знайсці. Аж галава гудзе-трашчыць.
— Дзіва было б, каб не трашчала. Кажуць жа: пакуль знойдзе, дык у мазгі зойдзе. Так і ў цябе.

## У СТАРОГА ЎСЁ СРОГА...

— Якая наўда з старога: адно хлеб пераводзе ды паветру робіць псоту.
— А не кажыце! Без старога хата, што карова без рога. У гаспадарцы без старога, як без сабакі даброга. І хату пільнуе, і раду

добрую ад яго кожны пачуе. Што малады не дадумае, дык стары прыдумае. У старога ўсё срога.

## ГАРА

Ішлі ўнукі з бабуляю. Унукі подбегам, а бабуля ледзь-ледзь валачэцца-цялёпкаецца за імі. Прайшлі яшчэ трохі, дык яна і кажа задыхана: «Пачакайце трохі. Куды вы леціцё?.. Гара ж!»— «Якая гара? Дзе гара?!»

Прайшло гадоў сорак ці болей. Унукі павырасталі, самі парабіліся бабулямі ды дзядулямі. Давялося ім аднаго разу ісці якраз той мясцінаю, якой яны калісьці хадзілі з бабуляю. І ўжо яны спыняюць сваіх унукаў: «Куды вы леціцё?! Пачакайце трохі! Гара ж!» А іхнія ўнукі, як і яны раней: «Якая гара? Дзе гара?»

## ШТО НАЙЛЕПЕЙ?..

У старога кушлянца пытаюцца, якая для яго, дзядулі, самая лепшая, самая дарагая рэч у свеце? Ён і адказвае:

— Няма для старога лепшае на свеце рэчы, як зімой сядзець ціха на цёплае печы.

— То сядзеў бы ты, дзядулька, на печы ды грэў бы сабе плечы.

— Добра, унучка, радзіш — нічога не скажаш. От толькі адна бяда — печы не маю. У Каляды развалілася...

## ЗАВІ МЯНЕ...

— Як, пане, твайму вуху лепей чуць: жыд ці габрэй-яўрэй?

— Заві жыд. Бо як будзеш казаць «яўрэй», то памру скарэй. А як будзеш казаць «жыд», дык буду доўга жыць!

## ЧЫСТА, ГЛАДКА...

— Ну што, Ясюк: усё зрабіў, усё парабіў?

— А бадай што усё, хай яго халерачка!

— Ну то і як?

— Анішто: здаецца, чыста, гладка і не гадка. Стой, глядзі — плюнь дый ідзі... Работа — не згрызота. Згрызота горай як работа.

## ПЕРАКРОЧЫЦЬ СЛОВА

— Ён чалавек неспадзеўны. На яго няможна спадзявацца. Я ж, калі даў слова, то і мушу яго стрымаць. Сказаў, што заўтра прыеду, то і мушу заўтра прыехаць. Не магу ж я сваё слова перакрочыць!..

## СТАРАСЦЬ НЕ РАДАСЦЬ

Скора ў тую дарогу, калі ногі да парогу.
Мур муруй, а допісі гатуй.
Гады робяць свае сляды.
Як здароў — сем паноў, а як знямог — адзін Бог.
Чалавек не жыве, а мучыцца, чакае, калі з смерцю злучыцца.
Смерць і радзіны не маюць свае гадзіны.
Старасць — няўдаласць.

## АБВОДЗІУС ВОЧЫУС

Прыйшла да лекара бабулька — і скардзіцца на сваю нямогласць:

— Доктарка, дай лекаў! — просіць яна.

Ну, а якія ж лекі ад старасці? Няма такіх лекаў. Іх і цяпер няма, а даўней тым болей не было. Але і так бабульку выпраўляць доктару не хочацца. Якая ж пра яго слава будзе, калі ён бабульцы нічым не паможа. І што ён робіць? Бярэ дзве такія цаглінкі, цэглачку аб цэглачку пашмараваў, усыпаў у ваду гэтае шмараванне, зафарбаваў. А бабулька пытаецца:

— А мой жа ты доктарка, а мой жа ты саколік, як жа тваё зеллейка завецца?

— Бабулька, — адказвае той, — назва гэтая па латыні. Ты ўсё роўна не запомніш...

— А ўсё ж? — не здаецца цікаўная бабуля.

— Ну, калі ты ўжо так просіш, то слухай, — кажа доктар. — Зёлкі гэтыя называюцца абводзіус вочыус. Зразумела?

— Чаму ж не зразумела? Мусіць, вельмі ж добрыя гэтыя твае зёлкі, калі іх так мудра называюць.

## АЧУНЯЕ

— Як ваш дзед — ачуняе? Папраўляецца?

— А як жа! Ачуняе, панраўляецца. Раней пляваў на грудзі, а цяпер на бараду.

## МЕДЗЬВЯДЗЁВА СІЛА

— Ну, як здароўечка, Міхале? Як маешся?

— А пакуль, хвала Богу, нічога. Пакуль у мяне яшчэ медзьвядзёва сіла і зайцаў паварот!

— Ну, то хай так яшчэ доўга будзе!

## КАЛІ Б ЛЮДЗІ НЕ МЕРЛІ

Сядзіць старац і разважае:

— Калі б людзі жылі доўга і не мерлі? — І сам сабе адказвае: — Тады б людзі жылі доўга і не мерлі, каб яны заўжды былі ў руху, ніколі не лажыліся, калі іх хворасць ці змор бярэ. А як на каторага хворасць ці змор (стома), — лёг-прылёг і памёр. Яшчэ ніколі такога не было, каб хтось памёр на нагах.

## ТАКІ ЧЫН...

Адзін трахімовец выхваляўся:

— О, мой сын у вялікія людзі выбіўся!

— І дзе ж гэта?

— Аж у Вільні!

— І што ж ён там робіць?

— Ён і казаў... Але слова такое мудрагелістае называў, што я яго выгаварыць не магу. А калі і выгавару, то ледзь язык не зламлю... Якісь ён там санізатар, ці што...

— Эх, чалавеча, — уздыхнуў другі, — як такі чын, дык лепей нікім. Лепей хай бы кошыкі разам з табою ў Трахімох плёў ды ў Вільню вазіў...

## СТРУМЕНЬ ТУТ...

Паехалі двое трахімоўцаў у Вільню. Хадзілі яны там, хадзілі, а тут падперла на вадкае. А няма куды! Яны зірк-зірк, а скрозь людзі: паны ды паненкі, і ўсе важныя такія. Снуюць туды-сюды. Ідуць далей — аж бачаць: пекны такі будыначак. А на ім зверху вялікімі літарамі напісана «Институт». Адзін з трахімоўцаў ды трохі чытаць умеў. Так-сяк, па літарах, па-свойму слібізаваў: «Ін-сцы-тут». Прачытаў і ўсцешана кажа:

— Во, Юзук! Якраз тое, што нам і трэба: тут напісана: «Струмень тут»!

## КАЛІ ПРЫПЯЧЭ

Нашы суседзі-палякі ходзяць, як ведама, да ветру. Расейцы — па вялікаму ці маленькаму. А кушлянцы?

— Юзук! Чаго гэта ты мулішся? Табе на густое ці на рэдкае (вадкае)?

## НЕ Ў ДУГУ

У трахімоўца пытаюцца:

— Юзук, а чаму ты гэта ўсё дымам душышся, на чорнае паліш? Чаму ў курнай хаце жывеш? Чаму комін праз страху не выведзеш?

— Дык от жа я мо даўно б вывеў, — апраўдваўся Юзук, — але мая баба не ў дугу. Кажа: калі я комін выведу, дык праз яго ў хату ведзьмы ды нячысцікі будуць лазіць і нас лякаць. Дык хіба лепей ужо дымам душыцца, як з ведзьмамі ды нячысцікамі вадзіцца.

## ГАЎ

— Чуў, браток, што з гайдзеўцамі зрабілася?

— Не, не чуў. А што?

— Ды ўсе гайдзеўцы гаўкаць пачалі!

— Як гэта?

— А вось хтось узяў і перахрысціў іх: укапаў пры вёсцы слуп, прыладзіў да яго шыльдачку і напісаў: «Гаўдзевічы». Было Гайдзевічы — Гай Дзявочы, а зараз Гаў Дзявочы...

— А гайдзеўцы што?

— Смяюцца. Кажуць, цяпер усе іх будуць баяцца. Усіх загаўкаюць...

## МАЛАКО ЖЭНІЦЦА

— А ці ж так бывае?

— Бывае.

— А калі?

— Малако тады жэніцца, калі на два дзеліцца, робіцца азызлым.

## НЕ ДАПАМОГУЦЬ І ВІСЛЫ

Даўней паны ездзілі правіць здароўе на Віслу. А людзі на гэта казалі: «Не дапамогуць і Віслы, калі вушы абвіслі!»

## КОЖНАМУ СВАЁ

Мужык любіць грунт, а купец — фунт.

## ХАЙ КАПЕЙЧЫНА АЦАЛЕЕ...

Ляжыць бацька хворы. Сыны ходзяць ля яго, шкадуюць. Адзін з іх пытаецца:

— Давай, татка, віна царковага купім, добрага?

А даўней добрае віно толькі як лекі спажывалі, каб хворым пакуты зменшыць. Дык бацька на гэта:

— Сынкі мае, не трэба, навошта. Я ўсё роўна памру... Хай капейчына ацалее...

## КАБ ЗНАЙСЦІ...

Ішоў Ясюк вуліцаю. Шукаў Уладука, але нідзе не мог знайсці. Трапляецца яму на вочы Уладукоў сусед, дык Ясюк пытаецца ў яго: мо ён ведае, куды Уладук запрапасціўся? А сусед на гэта:

— А хіба ты не ведаеш: у нас, каб каго знайсці, то мусіш у карчму ісці...

## ДАРОЖНАЯ ЗАМОВА

Выбаў нас, Божа,
Ад вёскі Гульбіны,
Ад віленскай дзяўчыны,
Ад прыгодаў на жупранскім мосце.

## МОЖАШ ЯШЧЭ ПАБЫЦЬ...

Праўду кажуць: нязваны госць горш за татарына. Дзе любяць — не часці, дзе не любяць — не гасці. Не заседжвайся, не надакучай. Але адзін кушлянец забыўся на гэтую мудрасць: сядзіць сабе і сядзіць, гамоніць ды гамоніць. А ў гаспадароў праца гарыць, кошкі душу шкрабуць. Тады падыходзіць гаспадароў хлапец дый кажа:

— Дзядзька, можаш яшчэ пабыць, але ўжо вазьмі шапку, біч і рукавіцы.

## КОЛЬКІ МОГ...

Ехалі праз мост, і конь з таго моста ў рэчку зваліўся, шчыкануўся. Пачалі тужыцца, каня цягнуць-выцягваць. Хто за што ўзяўся — і цягнуць. А быў там і кум Лукаш. Дык той кум за хвост узяўся. Выцягнулі каня і смяюцца:

— Як жа ты, Лукаш, нам моцна памог. Узяўся за валасінку і каня вышмаргнуў на спінку.

— А колькі мог — гэтулькі і памог. І за гэта дзякуй скажыце!

## ДЖЫНДЖУК

Ішла кума на хрэсьбіны. Як на хрэсьбіны ісці, трэба што-кольвек з сабой несці: аладкі, хрушчы, рознае печыва. Яна ў дзвюх руках несла ванзэлкі. Па дарозе ёй салдат сустрэўся. Даўней па вёсках стаялі. У яго паўлітра было, але закусі не меў. Прыдабрыўся, разгаварыўся:

— Давай, мілачка, я паднясу. Табе лягчэй будзе. Кабета на ўлегцы ідзе. Ну, ішлі, гаварылі, гаварылі. Тады ён прымеркаваў. Бачыць пагорачак:

— Я, кумачка, цябе даганю. Ты ідзі, не азірайся...

Мо сказаў нешта пра сваю якуюсь патрэбу. Не будзе ж яна стаяць пры ім. І кумачка пайшла далей. Адно толькі папыталася, як яго зваць.

— Завуць мяне, — сказаў ён загадкава, — Джынджук. Сёння я тут, а заўтра мой дом — другі кут.

Ідзе кума, ідзе. Чакае, калі яе дагоніць той Джынджук. От ужо і вёска, дзе хрэсьбіны ладзяць, а Джынджука ўсё няма і няма... Ужо і на хрэсьбіны прыйшла. І надта ёй сорамна, што з пустымі рукамі. Людзі п'юць-гуляюць, а яна ўсё ў вакно паглядвае: можа, пакажацца той Джынджук, прынясе яе дарункі на хрэсьбіны. Гаспадары і пытаюцца:

— Каго ты, кумачка, выглядаеш?

— То гляжу, ці не пакажацца Джынджук, забраў мае вандзэлікі з рук. Сказаў — даганю. Я ўжо тут, а яго няйме. Я не ем і не п'ю, адзін гэты мне Джынджук на вуме.

## НЕ РАЗГУБІЎСЯ

Надумаліся зладзеі млын абакрасці. І вось сярод ночы пачалі ўжо ля дзвярэй поркацца, замок скручваць. Аж пачуў гэтую валтузню

вартаўнік. Ён у млыне сядзеў. Звалі яго Дзяніс. Дык што ён робе? Як гукне на ўвесь млын:

— Дзяніс! Ты бяжы ўніз! А мы з табой тут возьмем іх ускрут!

Зладзеі падумалі, што і напраўду вартаўнік не адзін, і далі цягу.

## НЕ РАЗЖЫЎСЯ

Адзін чалавек гараў поле поблізу Кушлянаў. І выгараў грошы. А ішоў жабрак. Дык той чалавек і пахваліўся жабраку, што знайшоў грошы. А той хітрэйшы ўдаўся, больш на свеце хадзіў дый кажа:

— Гэта не грошы. Гэта твая смерць! Давай іх мне, я іх патроху далей занясу ад граху.

Чалавек той, кунечна, і аддаў грошы. А ўвечары з поля вярнуўся і жонцы расказаў. А жонка яму: «Дурань ты дурань!» І што яна робіць? Наклала на сябе ўсё жабрачае, бярэ з сабою хлопчыка й ідзе ў карчму. Туды, падказалі ёй, пайшоў і той жабрак. Ну, што ў той карчме? П'юць, гуляюць. Кабета спазнала таго жабрака, да яго падсела. Пачалася гавэнда. Тое ды сёе. Знаёмства заводзіць. Жабрак пытаецца ў кабеты, як яе завуць.

— Завуць мяне Неспаймаць. Ды ўжо пара спаць.

Ну, леглі яны спаць. Карчмар ім куль саломы на падлозе распусціў. Кабета так сабе, толькі вочы прыплюшчыла, а жабрак і моцна заснуў. Ведама, добра падпіў. Ну, як усё у карчме аціхла, дык тая кабета за грошы, выцягнула з-пад галавы ў жабрака, за хлопчыка і вон з карчмы. Назаўтра трохі ачомаўся жабрак — мац-мац — няма грошы. Успомніў гавэнду з кабетай, і ўсё зразумеў: не ўдалося на ашуканстве разжыцца.

## УСІХ У СКЛЕП

Адзін тутэйшы дзяцюк надта хацеў з шляхтай хаўрусаваць. Але шляхта яго не прымала. Бывала, збярэцца на сваё ігрышча, гуляе, вальцуе, танчыць, аж з шляхецкай пыхі хата ходарам ходзіць, а яго не пускаюць. Крыўда апанавала дзецюком. Доўга думаў, як крыўду сагнаць. І што ён робіць?

Аднаго разу пракрадаецца ў сенцы тае хаты, дзе шляхта ладзіла свае ігрышчы. А там, у сенцах перад дзвярамі, быў склеп з люкам уверсе. Дык ён накрыўку з склепа адкінуў, а пасля як закрычыць пад вакном: «Па-жар!» Дык тая шляхта з перапуду пачала ляцець у той склеп, у склепную зеўру... Крык, лямант, гвалт!

Доўга было пасля гаманы. Усё гадалі: хто гэтак мог зрабіць, чаму і навошта? І ні да чога дадумацца не маглі. Толькі пасля, праз шмат гадоў, той дзяцюк сам прызнаўся, што гэта ён такі вэрхал колісь наладзіў шляхцюкам.

## ЦЮЦЬКА — НЕ САБАКА

Было гэта ў Жупранах яшчэ за царом. Адзін жупранскі дзяцюк нешта раз не стрываў ды назваў тутэйшага ўрадніка цюцькам. Той закрыўдаваў, разгневаўся. А як жа! Абраза ўлады! Падрыў улады! І падаў у суд на таго нястрыманага на язык дзецюка. І от суд. Суддзя і пытаецца ў дзецюка, ці гэта праўда, што ён назваў урадніка сабакам?

— Пане ўраднік, чаму гэта вы напісалі ў сваёй скарзе, што я вас назваў сабакам? Не было гэтага. Не называў я вас сабакам. Гэта няпраўда! Вы не сабака. Вы — наша ўлада. Я не мог вас назваць сабакам. У мяне вунь і сведкі ёсць. Можаце і вы ў іх спытацца, ці называў я васпана сабакам?

Сведкі таксама пасведчылі, што не было «сабакі». Быў толькі «цюцька». А цюцька — гэта яшчэ не сабака. Гэта толькі маленькі сабачка, шчанюк.

Надакучыла ўрадніку слухаць гэтую знявагу на судзе — ён ужо быў не рады, што звязаўся, і адклікаў сваю заяву. А суддзя параіў ураднікy быць больш пільным, больш дакладна афармляць паперы, не дазваляць сабе вольнасцяў, каб не зводзіць следства і суд у зман.

## НЕ ХАПІЛА Б ВАЛОВАЙ СКУРЫ...

У адной кушлянскай пявунні пацікавіліся, колькі яна ведае тутэйшых песняў.

— А мае вы дзеткі, — адказала яна годна, — адной валовай скуры не хапіла, каб усе іх спісаць-запісаць.

## САМІ СКЛАЛІ...

— Пытаецеся, як мы даўней жылі?.. А нічога, пан. Неяк жылі. У касцёл хадзілі. Шмат працавалі — пралі, ткалі, вязалі, нашывалі. Трэба было ўсё самім дабываць. А надаралася — збіраліся на ігрышчы. А там — скокі, песні, казкі, анекдоткі. Весялілі, смяшылі, як маглі, адзін аднаго, прыдумлялі свае песні, прыпеўкі. От гэтыя жартоўныя прыпевачкі самі склалі. Слухайце, калі яшчэ не чулі:

Ой, праўда, праўда,
Хоць ты пабажыся,
Якія ў Жупранах
Дзеўкі завяліся.

А жупранскіх дзяўчат
Можна здалёку пазнаць:
Шарачковыя рубахі,
Адзін лапаць хунтаў пяць!

## ХТО НА ТРАБЫ?

Колісь на ашмянскім кірмашовым пятачку круціліся балаголы на сваіх гарцунах. На ўсе галасы гукалі:

— Бабы, бабы, хто на Трабы? Хапайце свае ванзэлкі, хатулі, бярэм не дорага: з каго капейкі, а з каго і рублі!

Даўно ў Ашмяне звяліся балаголы, рыдваны ды рыдванкі. Але яшчэ дзе-нідзе тут можна пачуць:

— Бабы, бабы, хто на Трабы? Хапайце свае ванзэлкі і хатулі — арбон[1] на адлёце!

## СПОРЫ КІЛАМЕТР

— Ці далёка да Кушлянаў?
— Не, недалёка.
— А колькі?
— Ды споры кіламетр будзе.

## КАЛІ Б НЕ ЖОНКА...

Некалі поблізу Кушлянаў у вёсцы Лопаці жыў хтосьці Горыд. У свой час ён спагадаў паўстанцам, насіў ім у лес падмацунак. За гэтую спагаду яго разам з сям'ёй мураўёўцы саслалі аж у Томскую губерню.

Праз шмат гадоў неякім прыпадкам кушлянцам трэба было згадаць імя гэнага Горыда. Успаміналі-ўспаміналі — і ніхто не мог прыпомніць. І от, калі ўжо, здавалася, памяць усім кушлянцам здала, адна далёкая крэўная таго Горыда і кажа:

[1] Арбон — аўтобус адпаведнай фірмы за польскім часам.

— А здаецца, Горыда звалі Антон. Прыпамінаю: ягоная жонка, як толькі што ёй трэба, дык гукала: «Антон, сюды! Антон, туды!» — і той лётаў па хаце, як тая швальная іголка ў машынцы.

## УСЁ АД СОНЦА

— Ах, які гожы! Ах, які пекны, ладны ды ўдалы чалавечак! — з захапленнем кажа адзін пра другога. А другі ўдакладняе:

— Усё прыгожае, пекнае ад сонца, а ўсё харошае ды ладнае — ад чалавека. От і ўвесь тут сакрэт...

## ЗЯМЛЯЧА

Сівы дзядок тупаў ля муроў Сольскага касцёла і пільна ўглядаўся ў яго муроўку, часам і рукой па той муроўцы гладзіў: павядзе, як па нечым жывым.

— Што, дзядуля, шукаеш? — пытаецца адзін цікаўны, які ішоў паблізу касцёла. — Што выглядаеш?

— Ды от базароўскі валун шукаю. Дзед мне яшчэ расказваў...

Колісь у маіх Базарах ля гантарні ляжаў вялізны валун. Ды такі вялізны, што на ім пастушкі кадрыль скакалі. У 1863 годзе пад гэты валун паўстанцы цыдулку падсунулі тутэйшаму пану, каб той паклаў пад гэты глыбень восемсот рублёў. А калі не пакладзе, то маёнтак пусціць агнём. І паклаў. А той валун, як касцёл будавалі, перавезлі ў Солы. Аж дванаццаць коней везлі яго. Спачатку было восем, але несуладныя. Каб вайсковыя, суладныя, тыя б узялі, а гэтыя не ўзялі. Давялося яшчэ чатыры прыпрагаць. І от дванаццаццю і павезлі. З таго каменю майстры зрабілі ў касцёле вялікі алтар, на які ксёндз кладзе святыя кніжкі і іншыя касцельныя святыя рэчы.

— Дык не там жа, дзядуля, шукаеш... Трэба шукаць, дзе алтар.

— Ведаю. Але гляджу, мо з маіх краёў які і яшчэ камень-зямляча тут умураваны.

## ТУТЭЙШЫЯ

Неяк начулася ў Кушлянах «Тут жыў колісь адзін беларус...»

От табе й маеш. Як гэта так? — у Кушлянах жыў усяго толькі адзін беларус... А астатнія тады хто ж?!

— А мы — тутэйшыя, — тлумачылі мне. — А ўсіх, хто сюды наехаў з Беластока, з Беласточчыны, тут называлі беларусамі. А хто з Расеі —

бурлакамі. А самі ж мы тутэйшыя. Мы радзіліся тут. Нікуды не ездзілі, не з'язджалі. Нам дарагі наш куток, дзе рэзалі пупок.

## БЕЛАРУС ЦІ ПАЛЯК?

Між песняровымі крэўнымі даўняя спрэчка. Адны з іх, тыя, што ў Польшчы жывуць, у адно: Багушэвіч — паляк, і ўсё тут, хоць кол на галаве чашы!

Аднаго разу на Беларусі ім падтакнулі:

— Але, але — паляк! Паляк! Можа, вы там, у Польшчы, ягоныя творы ў школьныя праграмы ўключыце, будзеце, як мы тут, спазнаваць яго?

— А от гэтага не будзе!

— Дык пра што размова тады, панствове?

## ТОЙ, ШТО КАЗАЎ...

У Кушлянах ладзілася вялікае свята з нагоды народзінаў аўтара «Дудкі беларускай». Гасцей наехала з усяго свету. Адна тутэйшая бабулька хадзіла між людскога віру і пыталася:

— А ці прыехаў той пан, што сказаў: «Мы ўсе выйшлі з Багушэвіча»?

— Мальдзіс, ці хто? — удакладнілі ў яе.

— Ага, ён — Магліс.

## ТОЙ ЛЮД ЖЫВЕ, ШТО СВАІХ ПЕСНЯРОЎ ШАНУЕ

*«Мы усе выйшлі з Багушэвіча», — так сказаў неяк пра постаць аўтара «Дудкі беларускай» знаны гісторык беларускай літаратуры прафесар Адам Мальдзіс. І гэтыя словы, і найвышэйшае прызнанне Багушэвічавай постаці для Беларусі, для беларусаў.*

*Францішак Багушэвіч — і гэта бясспрэчна і адназначна жыў думай пра свой народ, яго лёс. Яму усё было люба ў родным народзе: і песня, і гумар, і душа, і апратка. Ён жыў для народа і з народам і стаўся ягонай легендай. Пра яго самога захаваліся ў народзе цікавыя ўзгадкі. Яны вартыя нашай увагі. Некаторыя з іх я падаю як народныя залацінкі.*

## ТЫКЕЛЬКА

У недалёкай ад Кушлянаў вёсачцы жыла кабета. І надта ж ой было даспадобы слова «тыкеле» (толькі) — з языка яго не спускала. Як

толькі якая гаворка, дык яна: тыкеле ды тыкеле. За тое яе і празвалі Тыкелькай. Але памерла кабета. З ёю памерла і слова. Не чуваць яго цяпер нідзе на Ашмяншчыне. А даўней жа яно аж звінела, цешыла вуха. Усе тыкеліліся. Разам і ўсімі тыкеліўся і Мацей Бурачок.

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

Ой! то будзе гранне,
Як на павітанне
І як на вяселле,
Нядоўга тыкеле...

**ХАМУЦІК**

Жыў некалі ў кушлянскай старане Петрусь. Быў ён досыць з заможнай сям'і. Вучыўся на святара. Але гэная вучоба трохі разладзіла ягоны розум. Ён маліўся за жывёлак, за пташак. Казаў:

— Усё жывое на свеце ад Бога. За ўсіх трэба казаць пацеры, маліцца!

Як толькі надыходзіў Веліканец (Вялікдзень), ён ішоў да Багушэвічаў і пачынаў свае літанні за ўсіх створаў божых — за гавядак, за свінак, кныркоў, цёлак і бычкоў, каб яны добра радзіліся, пладзіліся, каб іх усялякая пошасць ды мор абыходзілі. Найчасцей важдалася з Петрусем Багушэвічава супружанка Габця. Яна слухала ягоныя літанні. Напрыканцы сваіх модлаў Петрусь пытаўся:

— А ці можна, панечка, яшчэ памаліцца за хамуцік?

А хамуцікам на Кушляншчыне называлі кілбасныя колцы. Панечка, ведама, пагаджалася. І тут Петрусь асабліва шчыраваў, бо ведаў: гэты хамуцік будзе яму платай за ягоныя модлы за жывёлак. І так яно было. З гэтага Петруся часам і самога звалі Хамуцікам.

**ПАДЛЭБНІКІ**

Багушэвічава зямля межавала з зямлёю Абцэвічаў. Але ж надта далося Багушэвічам гэтае суседства! Абцэвічы і кралі, і бралі. Надаралася, не раз быдлам пасевы дратавалі. І з людзьмі не надта ладзілі. На людзей глядзелі цёнгле з-пад лэба. З-за гэтага іх называлі Падлэбнікамі, Падлэбічамі. Багушэвіч не ведаў, якой ім даць рады.

Прапанаваў ім цэлую валоку зямлі. Казаў, што і фальварак ім купіць, абы яны толькі ў другое месца з'ехалі-пераехалі. Аднак тыя не пагаджаліся. Навошта ім тая зямля? Навошта ім тое новае месца? Навошта ім гарбаціцца? Яны і з Багушэвічавага гатовага поля ды лесу нахапаюць-нацягаюць, нават вокам не плюснуць! Падлэбічы ёсць Падлэбічы. Можна было якой рады даць праз суд. Але Багушэвіч перадумаў: ці не завялікі гонар было знанаму адвакату вадзіцца з гэнымі Падлэбнікамі. Гэтак і мусіў да самай сваёй змогі суседнічаць з Абцэвічамі.

## ЦІ ГУЛЯЕ ПАНІ?

У Багушэвічавы часы віленскія паны любілі гуляць у вінт. Гэтая гульня ў карты спакваля перакінулася ў фальваркі, маёнткі. Азартныя гаспадары, паводле Багушэвічавых слоў, калі бралі сабе новых гувернантак, абавязкова пыталіся:

— Ці гуляе пані?

Тая, не даслухаўшы, хуценька адказвала:

— Гуляю!

## ХІТРЫ ПЯТРУК

Багушэвічавымі суседзямі былі і Каспяровічы. Аднаго з іх звалі Пётра — Пятрук. Неяк аднаго разу ў гэнага Петрука скралі з току змалочанае жыта. Доўга ён варажыў, хто б гэта мог быць. І такі вываражыў. Яму надалося, што гэта маглі зрабіць хтось з суседняга Забалоцця. Там жылі аматары чужым пажывіцца. І от Пятрук бярэ з сабою сведкаў і ідзе ў тое Забалоцце. Ідзе і бачыць: у аднаго гаспадара акурат на таку ж ворах збажыны, які быў і ў яго. Падступаецца ён бліжэй да таго вораху і кажа:

— Маё жыта! Яно ў мяне мечанае...

Запускае руку ў збожжа, набірае жменю зерня і паказвае:

— Сваё жыта я пазначыў шавецкімі цвічкамі. Глядзіце! І напраўду — у Петрука на далоні жменька зярнятак з маленькімі драўлянымі цвічкамі. Дык той забалоцец мусіў здацца: прызнаўся, што зерне крадзенае.

## ЯК З РУДОГА РАБІЛІ ЗАЛАТОГА

Пра гэта ад Багушэвіча чулі. У Вільні жыў багаты купец — Руды. Барада ў яго была рудая. То і Руды. Надта яму прыкра, што ўсе яго

завуць Руды ды Руды. Аж знайшоўся штукар. Падмеўся зрабіць яму з рудой барады залатую. Ну і ўзяўся штукарыць. Сказаў даць яму колькі чырвонцаў залатых. Раз барада мецьму залатая, то трэба і золата. Далі яму і золата. Далей што? Бярэ гэны штукар бляшаначку шавецкай смалы і нібыта тыя залацінкі туды кладзе: лепей з золатам барада будзе трымацца. Тады што? «Трэба, — кажа, — бараду ў гэную бляшаначку ўлажыць і сядзець ціха-ціха, не варушыцца, не рухацца, а яму трэба які пэндзялёк ці памазок купіць, каб бараду размалёваць». Сказаў так і пайшоў. А золата скрытна сабе ў рукаво загрэб. А купец гэны сядзіць з бляшаначкай пры барадзе, не варушыцца, каб гэтая мазь застыгла. А штукара ўсё няма і няма. Але ён ўсё-такі на адыходзе паспеў спытацца, як зваць-велічаць майстра.

— Завуць мяне Эдакаў.

Сядзеў-сядзеў купец з апушчанай у бляшаначку барадой, а штукара ўсё няма і няма. Занерваваўся ды да жонкі:

— Васфільда, дзе гэны Эдакаў?

Выскачыў на вуліцу з бляшаначкай у барадзе і ў першага стрэчнага пытаецца:

— Не видали ли вы Эдакова?

А стрэчны паціскае плячыма:

— Эдакава, з бляшанкай у барадзе, бачу першы раз.

## «КАКИМ ОБРАЗОМ»?

Францішак Багушэвіч лічыў, што ўсе судовыя людзі — следчыя, пракуроры дый суддзі — павінны ведаць народную мову. Інакш можа здарыцца шмат непаразуменняў. І такіх непаразуменняў на судах ды дазнаннях было процьма. От аднаго разу следчы пытаецца ў пацярпелага:

— А скажите, пожалуйста, каким образом вы подрались?

— Ды не абразом, — удакладняе пацярпелы, — а сякеркамі, сякеркамі...

З гэтым «образом» было і такое.

Следчыя ніяк не маглі дацяміць, як гэта злодзеі змаглі ўбіцца ў хату, хоць тая хата была на завале. Яны зноў да гаспадароў з сваім «образом»:

— А скажите, пожалуйста, как вы думаете: каким образом тати пробрались в ваш дом?

— Ды не абразом, панічок, а праз комін... А тата спаў.

## ВЫРОДУ НЕ БЫЛО...

— З вашых Кушлянаў і Мацей Бурачок, і паўстанцы, і музыкі, і мастакі...

— Так, пане,— на здатных людзей у Кушлянах выроду ніколі не было.

## ПАН БАГУШЭВІЧ СЛУХАЕ...

Расказваюць: аднаго разу да Багушэвіча ў Кушляны завітаў якісьці нетутэйшы панок па нейкай судовай справе. Падышоў ён да Багушэвічавай хаты — бачыць чалавека з раскідзістай барадой у грубай суконнай сялянскай світцы на ганку і пытаецца ў яго, дзе можна ўбачыць пана Багушэвіча.

Чалавек у світцы хітра прыжмураным вокам кінуў на залётнага госця:

— Зараз я яго паклічу, — і знік за дзвярыма.

Праз колькі хвілін на парозе з'явіўся той жа самы прысадзісты чалавек з вялікай раскідзістай барадою, але ўжо ў чорным адвакацкім сурдуце і наўмысна ўрачыста апавясціў:

— Калі ласка, пан Багушэвіч вас слухае!

## БАГУШЭВІЧАВА КЕМНАСЦЬ

Адзін гаспадар прадаў валы. І што яму ў галаву пасля прыйшло — пусціў пагалоску, што валы гэтыя не купілі ў яго, а ўкралі. Мусіць, хацеў другі раз грошы за валы ўзяць, і ён падае на купца ў суд. Знаходзіць сабе і сведак такіх, як сам. «Будзе мне, будзе і вам», — паабяцаў ім.

Бараніць купца ўзяўся Багушэвіч. Ён надта ж не любіў несправядлівасці. А тут такое ашуканства! Але як даказаць? На судзе збіць з толку прадаўца ці сведку не ўдалося. Відаць, спрытныя былі на язык, і суд прысудзіў купцу заплаціць за валы. І што робіць Багушэвіч, каб дабіцца праўды? Бярэ саламяны брылёк, капялюшык такі, любіў ён насіць, і пачаў у прысутных у судзе прасіць, каб хто, колькі зможа, ахвяравалі пацярпеламу. Хто пяць, хто дзесяць капеек кідалі. Багушэвіч падышоў і да таго, што прадаў валы. Той з радасці, што будзе мець другі раз грошы, кінуў цэлы паўрубель. Багушэвіч узяў таго паўрубля, пакруціў яго перад вачыма і сурова запытаўся, дзе ён узяў гэтыя грошы? — яны фальшывыя. Калі не скажа, то яго самога будуць судзіць. Той спалохаўся і пры ўсіх сказаў, што гэтыя

грошы даў купец за валы. Ну, а грошы, вядома, былі з казны, непадробныя. Так Багушэвічу давялося хітрасць хітрасцю выбіваць.

## І ГЭТАГА ДОСЫЦЬ...

Багушэвіч трымаўся ва ўсім свайго народа. Усё ж хто-ніхто, надаралася, пры стрэчы з ім здымаў шапку, уклоны біў. Гэта дужа бянтэжыла гаспадара кушлянскага фальварка. Калі часам такое было, ён спыняўся і лагодна казаў: — Не трэба перада мною уклоны рабіць і шапку ламаць. Я ж такі чалавек, як і вы. Далі «дзень добры», дык мне і гэтага досыць! А на сваёй зямлі хадзі годна, з распрастанымі плячамі! Ты на ёй гаспадар і пан!

## МУДРАЯ НАЗВА

Дачуліся кушлянцы, што ў Вільні адкрылі новыя суды, а іхні сусед, Багушэвіч, там за прысяжнага паверанага. А што такое прысяжны паверaны — ніхто не ведае. Сабраліся, раяцца, гадаюць. Адзін кажа: «Прысяжны паверaны — гэта нешта такое, як конь прыпрэжаны». Другі пярэчыць: «Ой, не, людцы. Прысяжны паверaны — гэта, мабыць, такі чалавек, катораму не вераць, пакуль Богу не прысягне».

І такое тлумачэнне дужа ўсім спадабалася. І хоць пасля даведаліся, што прысяжны паверaны — гэта адвакат, абаронца на судзе, а ўсё ніяк не маглі зразумець, чаму так адвакатаў ахрысцілі. Ніяк гэтыя хітрыя словы не кладліся ў неспакушаныя сялянскія галовы.

## МАЦЕЙ БУРАЧОК

Разважаюць двое кушлянцаў:

— От мы ўсё кажам — Мацей Бурачок, Мацей Бурачок... А чаму Бурачок? Мацей — гэта ясна. Быў такі святы. А Бурачок?

А Бурачок, пэўна, з таго, што бурачкі новяць кроў чалавеку. І от наш Францішак Багушэвіч наважыўся абнавіць кроў усяму беларускаму люду. От таму і Бурачок. І зямны, і святы. З гэтага ён і пусціў на людзі сваю «Дудку» з «Смыкам». З імі Мацею Бурачку ўдалося-такі абнавіць кроў нашаму люду, удыхнуць у ягоную душу свёжы павеў.

## ЯК МАЦЕЙ БУРАЧОК

Францішак Багушэвіч любіў світкі ашмянскага крою. З-за гэтага шмат хто лічыў яго дзіваком. Ну то хіба ж не дзівак?! Шляхціц, вучоны чалавек, а сялянскую світку з сівога даматканага сукна не скідае з плячэй. З гэтага нават помаўка такая па Ашмяншчыне пайшла:

— Што гэта ты прыбраўся, як Мацей Бурачок!

Гэта калі хто апрануўся вельмі сціпла, прасцей, чым мог, чым гэтага патрабуе ягоны службовы статус.

## ЯК БАГУШЭВІЧ СТАЎ СВЯТЫМ

Прыйшлі аднаго разу парафіяне да жупранскага касцёла. А было гэта ўжо ў дзевяцісотым годзе, і бачаць — у бабінцы на мармуровай дошцы новы абраз у авале: лабасценькі такі, з доўгімі вусамі. Шмат хто падумаў, што гэта лік нейкага святога, і давай укленчваць перад ім, паклоны яму адбіваць ды цалаваць тую пліту. А пасля хтось сказаў, што гэта ніякі не святы, а Багушэвіч з Кушлянаў — Мацей Бурачок. Пасмяяліся трохі з свае цемнаты, але звычай свой ужо не парушалі: «Мацей Бурачок, — казалі яны, — не менш святы за ўсіх святых!»

## МЭТР

— А скажыце, вашасць, чаго гэта Багушэвіча з Кушлянаў метрам называюць?

— Ды не метрам, а мэтрам.

— А хіба гэта не адно і тое?

— Не. Метр — гэта калі мы штось з вамі мераем: зямлю, тканіну, шляхі, дарогі. А мэтр — пашанотная назвіска таленавітага чалавека, заслужанага перад людзьмі. Мэтр — гэта настаўнік. А Багушэвіч з Кушлянаў якраз і быў такім чаловекам!

— Вунь яно што!

## ФУНДАТАР

У жупранскім касцёле на пачатку мінулага стогоддзя ўсталявалі мармуровую дошку з Багушэвічавай падабізнай. З тае пары між людзей паплыла пагалоска:

— Гэта ж таму Францa Багушэвіча з Кушлянаў у касцёле ўшанавалі, што ён быў яго фундатарам.

— А даўней нешта пра гэта не гаварылі. Казалі, што граф Чапскі фундаваў касцёл...

— Мо і граф, але пра Багушэвіча погалас ідзе. Так бывае: фундуе адзін, а слава другому перападае. Мо гэта таму, што Багушэвіч пра нас, парафіянаў, пра наш просты люд клапаціўся, думаў. А граф Чапскі, фундуючы касцёл, адно пра сваю графскую пыху дбаў. А Бог не цяля — убачыў круцяля: фундацыю ўзяў, а славу Багушэвічу перакінуў. Ало ж і дыму без агню не бывае. Мо Багушэвіч якіясь ахвяраванні рабіў ці збіраў для касцёла сярод сваіх знаёмых. Таму людзі гавораць пра Багушэвічава як фундатара. Людзі без дайпрычыны не будуць так сабе гаварыць. Нешта ж было...

## БАГУШЭВІЧ, ДЫ НЕ ТОЙ

Ехаў гурт пісьменнікаў на чытацкую сустрэчу. Было спякотна. Спыніліся ля студні вады напіцца. Іх тут жа абступілі дзеці. Даведаўшыся, што ля студні пісьменнікі, пачалі пытацца, а ці ёсць сярод іх Багушэвіч. А якраз у гэтым гурце і быў вядомы тады пісьменнік Юрка Багушэвіч. На яго і паказалі дзецям пабрацімцы. Дзеці паглядзелі на Юрку Багушэвіча і з недаверам пакруцілі галовамі:

— Не, не той! Багушэвіч з вусамі, Багушэвіча мы ведаем, вучым на памяць ягоныя вершы. Багушэвіч з барадою!

## БАГУШЭВІЧ НЕ ПРАДАЕЦЦА!..

У аднаго гаспадара на Ашмяншчыне ацалела Багушэвічава «Дудка». Тая «Дудка беларуская», якую сам Мацей Бурачок благаслаўляў. Дачуліся пра гэта вучоныя людзі з Менску. Прыехалі і давай ўгаворваць таго гаспадара, каб прадаў ім тую «Дудку». А гаспадар нізашто:

— Ой, не! Ні за якія грошы, пакуль жыву, не прадам. Хіба мае праўнукі... А я не магу! Як жа ж я буду жыць без «Дудкі»?! Не, Багушэвіч не прадаецца!..

## БАГУШЭВІЧАВА БАБКА

Было гэта гадоў з пятнаццаць таму, а мо і болей. Неяк аднаго разу апоўдні зазваніў тэлефон. Я падняў слухаўку. Незнаемы дзявочы голас:

— Да вас едзе Багушэвічава бабка, але яна трохі зблудзіла і просіць, каб вы яе сустрэлі...

Я трохі сумеўся, збянтэжыўся. Ды як было не збянтэжыцца! Сама Багушэвіча бабка мяне шукае! Пасля здагадаўся, пра каго мова, — пра маю знаёмую з Кушлянаў Станіславу Абцэвіч. Мне зрабілася весела, і я гулліва кажу незнаёмцы: «Дзякую табе, любка, за Багушэвічаву бабку!

Нам вельмі абодвум пашчасціла: яшчэ ніхто ніколі з нашых сучаснікаў не сустракаўся з Багушэвічавай бабкаю. Мы будзем першыя. То як жа з такой бабкаю не сустрэцца! Зараз жа ляту!» Вядома, я тут жа пацікавіўся, хто ж мне такую незвычайную вестку прынёс? Незнаёмка патлумачыла, што яна, выпадковая падарожная, ішла вуліцаю, а яе пераняла якаясь жвавая бабулька і лагодненька папрасіла набраць мой нумар, бо сама кепска бачыць, і сказаць, што яна з Багушэвічавых Кушлянаў.

От і ўся гісторыя.

## ЁН ЖА ВАС ЗАСЦЕРАГАЎ!..

Славуты дзед Талаш быў сучаснікам і амаль аднагодкам Францішка Багушэвіча. От стары партызан у адзін нядаўні юбілейны паэтаў год наважыўся вярнуцца ў гэты свет, каб паглядзець, як трымаюцца запаветаў Беларускага Прарока...

Ідзе па вуліцы і аж бачыць шыльдачку на сцяне пры дзвярах: сонейка і паўмесяц. Адчыняе дзверы, заходзіць, пытаецца: хто вы?

— Мы — Таварыства беларускай мовы, — кажуць яму.

— А чым вы займаецеся? — пытаецца далей.

— Мы баронім беларускую мову.

Як пачуў дзед Талаш слова «баронім», вочы яго загарэ- ліся:

— Запісвай і мяне ў сваё таварыства.

Запісалі. Пасведчанне выпісалі. Выходзіць дзед, усміхаецца задаволена. Ідзе далей і бачыць шыльдачку на доме з падпісам «фірма». Ферма — дык ён ведае. А от што гэта такое «фірма»? Заходзіць, распачынае гаворку. Адчувае — не разумеюць яго тут. А нейкія паненкі да ўсяго яшчэ пачалі хіхікаць з яго петрыкаўскага акцэнту.

— А ці ёсць тут хто, каб разумеў па-нашаму, па-беларуску? — пытаецца.

Аж падымаецца якісь курчавенькі такі хлопец:

— Чево тебе нужно, дед?

Дзед знячэўку як гаркне:

— На падлогу!

Дык той хлопец і расцягнуўся пасярод пакоя. А славуты партызан дастае з-пад крыса кажушка з апошняй вайны аўтамат і гучна так кажа да ўсіх:

— Вас жа Багушэвіч — Мацей Бурачок — папярэджваў: не пакідайце мову нашу беларускую, каб не ўмёрлі! А вы?!

## ЯК І ДАЎНЕЙ...

— А як на радзіме Францішка Багушэвіча за летувіскім гаспадарствам з моваю — у Свіранах, Рукойнях?

— А як і было...

— А як жа было?

— Між сабою гаворым па-беларуску, молімся па-польску, мацюкаемся па-расейску і спакваля спазнаем летувіскую.

## КУШЛЯНСКІ СОН

Аднаму пілігрыму з Менска выпала начаваць у Багушэвічавай хаце. І сніцца яму сон... Нібыта рассоўваецца сцяна і ў хату заходзіць сам яе гаспадар — у расшпіленым кажушку. Вусы ўроскідку, як распушчаныя крылы ў ластаўкі. Зайшоў дый кажа:

— Чаго ляжыш? Чаго разлёгся? Чаго вылежваешся? Чаму нічога не робіце?! Ці вы не бачыце, што край духам марнее, занепадае?

Сказаў — і знік.

На гэтым начлежнік прачнуўся і моцна задумаўся пра тое, што пачуў ад Прарока.

## НАРОДНЫЯ АПАВЯДАННІ Ў ЗАПІСАХ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

### ПАЛЯСОЎШЧЫК

*(Апавяданне старога лесніка)*

Трэці год ужо быў лесніком на графскай пушчы, хадзіў цягам па лесе, па оступах, па градах і ведаю, што мядзведзь ёсць-то ёсць, але

Бог бараніў спаткацца аж да гэтага года, ды і цяпер не ведаю, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў.

А вот як было: якраз у задушны дзень. Той дзень на ляпорт мы ўсе сабраліся. Прыйшлі рана, меўся лоўчы палявыць, ды штосьці з жонкай пабіліся, ці што, от так, яму было не да ляпорту, не да палявання, і пратрымаў нас да вечара без нічым нічога, а пад вечар загадаў дроў нарубаць, так і да ночы звялося.

Ноч цёмная, мне дахаты трэба ісці праз маю пушчу, праз оступ; дарогі ніякай няма, ідзеш логам, пасля градой, а там ізноў оступ; праз ручаёк доўгая старая елка, можа, ужо гадоў сто ляжыць вываратня, і па ёй пераходзім, бывала.

Якраз, даходзячы да той вываратні, думаю сабе: «Вот, Божа барані, цяпер мядзведзь на спатканне...»

Аж шапка паднялася, аж сэрца ёкае, улез на вываратню, пугач недзе стогне ў старым дубе, — яшчэ страшней стала...

Калі чую: вываратня аж калышацца, хтось ідзе з другога канца на спатканне. Так і ёсць, ён, мядзведзь, сапець, аж страх. А дождж як з рэшата сыпе. А ведаю я, што мядзведзь палахлівы, але ж і я не надта каб ад яго смялейшы. Дай, думаю, спалохаю я яго. Як зараву я па-мядзведжаму — уга! А ён — шабалдыхць у балота, а крыкнуў, як чалавек: «Ах!»

Лячу бардзей дахаты, ці не задраў ён маёй каровы? Не, цэла, дзякаваць Богу, ходзе па гародчыку. Я ў хату шусць! «Жонка, — кажу, — мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука!» Калі жонкі і ў хаце няма, дзеці спяць, сучка ляжыць пад сталом, смалякі гарaць на прыпечку, і бульба прэе. Што за прычына? Я туды, я сюды — няма жонкі; ці не павесілася, думаю, са злосці, што мяне няма, а яна тыкі злая. Калі пачакаўшы трохі, і яна ідзець у хату — уся мокрая, а дрыжыць, як лісток.

«Жонка, — кажу, — мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука».

«А Божа ж мой, Божа, гэта, — кажа, — пэўне, той самы і мяне, спаткаўшы, хацеў задраць; як зароў, дык аж я ў балота па шыю ўляцела».

«Гдзе ж ты, — кажу, — яго спаткала?»

«На чортавай пералазцы (так завецца тая вываратня), ішла цябе спатыкаць ці з двара дахаты клікаць».

«А я, — кажу, — ішоў дахаты і на той пералазцы спаткаў мядзведзя і спалохаў яго, дык ён у ручай зваліўся».

«А можа, то я была?»

«Вот, — кажу, — я бы цябе не пазнаў? То мядзведзь быў, пэўне. Вот ты дык, можа, мяне спаткала, а не мядзведзя».

«Але? Нябось, — кажа, — я добра прыгледзелася: і морда яго, і хвост кароценькі, і зароў як трэба, аж засмярдзела».

«А бадай цябе пярун спаліў! Давай, баба, бялізну змяніць!»

Ну, так і будзе — нячыстая сіла, думаю, нас абое ў медзвядзёў перакінула, а мы самі і не ведалі, бо і чаго ж мне па-мядзведжаму раўці і ўсё рабіць, як мядзведзь са страху?..

Дык і хто яго ведае, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў?..

## СВЕДКА

У нядзелю ранюсенька заходзіць да мяне Панасюк. Тое ды сёе, а потым кажа: «У тую суботу каб быў ты ў воласці ў сведкі на суд». — «Як у сведкі, дык у сведкі. Хоць я нічым нічога, казаў той, ніколі нікому».

Прыходжу — сядзяць. Я зірк — і ён тут, наш Бартак храмы.

Пытаюць суддзі: «А ты што знаеш аб гэтым дзеле?»

«Чаму, — кажу я, — не знаю? Ведама, усё, казаў той, знаю».

«Ну, дык кажы».

«Як казаць, — кажу, — дык і скажу ўсё. Так і так, — кажу, у мяне, — кажу, — Каруська (гэта жонка мая) надта, гадзіна, рана ўстае. Так якасьць пасля Пятра, якраз пасля нядзелі, чуць зорачка занялася, яшчэ навет і дзяркач на балоце ні разу не дзёрнуў, калі яна прыходзе да мяне і будзіць: «Юзук, Юзук!» — «Ці ты, — кажу, — здурэла, ці што якое? Гэта ж, — кажу, — нядзеля». — «Гэта, — яна кажа, — учора была нядзеля». Я схамянуўся: праўда, учора! Як так, дык так. «Ідзі ж ты, — кажа, — касіць на Лабок». А той Лабок, каб ваша ведалі, — дык чысты лабок. Як пойдзеш касіць, дык сцімбіркі толькі дзылінкаюць ля касы ды казельчыкі скачуць, а сена толькі, сколькі валасоў вунь на галаве ў пана суддзі (адзін лысы быў)».

«Ну, ну, — той кажа, — да дзела гавары! Ці відзеў?»

«Відзеў, кажу, — чаму не відзець? Святлюсенька стала, покі расчухаўся. Вот расчухаўся, пайшоў пад свіран — узяць бы касу, а касы нямаш: сюды — нямаш, туды — нямаш! Ніяк по спомню, гдзе дзеў. Аж я гэта, як рэзаў барана яшчэ з восені ды ўгкнуў у сцяну, дык яе там ці ржа пабіла, ці мышы вышчарбілі. Давай я яе кляпаць, а яна — давай крышыцца. Кляпоў-кляпаў, кляпаў-кляпаў... Віджу — нічога не будзе, пара палуднаваць. Папалуднаваў, праўда — Каруська кіс лага малака дала кришку, а ў нас перадойка гэты год была, казалі паля вала, а цяліцца — не цялілася.

Пад'еўшы трошкі, думаю: падбягу да Барткі храмога, — вот і ён тут, не дасць салгаць, — пазычу касу. Покі тое ды сёе, туды ды сюды, калі

і сонечка стала хавацца. Прыляцеў да Бартpredicted храмога (а ён сусед), калі яго няма. Косіць, кажуць, тыкі ж на Лабку (і ў яго такія ж сцімбіркі); калі я слова сказаць, і Бартак тыц у хату, — і зараз пацямнела. Мы сабе аб тым ды аб сім, а пасля таго я пайшоў дахаты вячэраць. Як дзісь помню, еў зацірку з малаком. Дык чаму ж я не знаю? Усё знаю».

«А відзеў ты (пытаюць суддзі), як Пятрук Сушка Бартку біў?»

«Калі?» — пытаю.

«Да тагды, як тое было?»

«Не ведаю», — кажу.

«Які ж ты сведка?»

«Але, — кажу, — які ж я сведка?»

І пайшоў дахаты.

А, праўда, па дарозе зайшоў да Бэрчыхі. А больш, дальбо, нічога не ведаю.

## ДЗЯДЗІНА

Ну і дзядзіна ў мяне была, а багатая дык багатая! Было ў яе сем маргоў зямлі, адна каза, сем хлявоў, тры гумны, а ўсе поўныя: у адным мак, у другім — так, а ў трэцім цапы віселі. А як пойдзе, бывала, дзядзіна казу даіць, дык покуль казу найдзе, аж у мозгі зайдзе, а як зачне яе даіць, так нясуць малако цабрамі, вядрамі, кадушкамі... А масла дык білі на гумнішчы цапамі і маслянку ў застрэнкі змяталі; бедныя людзі дык ішлі з мяшкамі, і з гаршкамі, і з разгінямі: хто з чым прыйшоў, той з тым пайшоў. А парсюкі кормныя ў дзядзіны дык такія былі, што праз парог не маглі пралезці, але пад парогам дзірачка была, дык туды лазілі. А грачыха ў маёй дзядзіны калі зарадзіла! Вот дару Божага было! Калі налажылі стог на слупе каля прыпечку, дык вот быў стог! Але зрабілася няшчасце: дзядзіна хусты прала, хтосьці дзвярмі стукнуў, стог перавярнуўся ў начоўкі — і ратуначку не было!

Вот тут мая дзядзіна і збяднела. А тут дзяцей з асміна, а карміць няма чым.

Увідзеўшы гэта, панскі аліндар як прыстаў да дзядзіны: «Прадай казу ды прадай!» Ведаў, каб яго немач, што добрая каза. Дзядзіна думала-думала — глядзіць, што няма чым карміць, і прадала казу. Аліндар казу браць, а каза ў лес наўцёкі, а воўк ды з лесу, ды яе за горла. Покуль мы даляцелі, яна толькі крыкнула: «Мааа-гда!», і зарэзаў яе воўк. Не так дзядзіне шкода было той казы, як жаль было таго, што каза і імя яе ведала...

## ІГНАЛЕВА СЯКЕРА

Прыйшоў да пана селянін, Ігналь, прасіць аддаць яму сякеру, каторую атабраў ад яго ляснік дворны, злавіўшы з хвойкаю ў панскім лесі. У сенцах яшчэ зняўшы шапку і абцёршы нос, уходзіць у канцылярыю, гдзе пан нешта пісаў, і з пакорай, чуць пераступіўшы парог, кажа:

— Пахвалёны Езус!..

— На векі! А хто там?

— Гэта я, паночку, Ігналь, той самы, што летась прыходзіў з кабылаю абгорываць бульбу, як панская Сіўка кульгала.

— Добра, добра! А чаго ж гэта, што скажаш?

— Хай панска ласка будзе не гневацца... гэта я, паночку, прыйшоў да пана, як да збаўцы... ужо такі ўсю праўду выскажу, як на талерку...

— А бадай цябе!.. Гавары бардзей, бо, бачыш, часу не маю!

— Няхай і так будзе! Каб гэта, паночку, хоць калі каму, хто, што і як, знарок ці не, мала-веля, якое, сякое, такое падумаў, сказаў ці зрабіў, дык яшчэ яно ведама было бы як, скуль, калі што і да чаго! Але, паночку, каб я ні тых, ні сіх не аглядаў, як я, нішто, ніяк, ніколі, нікому, нічога ніякага! А ён мне праз нішто, праз ніякае вун што!.. І за што, паночку, усё тое?..

— Але што і да чаго ўсё гэта?

— Ці ж пан яшчэ не зразумеў?..

## СЛОЎКА НА КАНЦОЎКУ

Большасць жартовак, анекдотак, народных досціпаў, як ужо згадвалася, трапіла ў гэтую кніжачку праз колішняга апекуна Багушэвічавай сядзібы Міхала Ляпеху, праз ягоныя запісы ці вусныя аповеды. Але парупіўся на гэтую кніжку і іншы кушлянскі люд. Скажам, апавяданне-згадку «Хітры Пятрук» прыслаў з Польшчы былы кушлянец Караль Альхімовіч, а «Хамуцік» і «Падлэбнікі» даслала з Вільні Марыя Саевіч. Песню «Ажаніўся Ясь са мною...» («Барада») наспявала Станіслава Абцэвіч з Кушлянаў. Што-кольвек запісаў ад Яніны і Стаха Шымановічаў з Жупранаў. Прынамсі, жартоўныя прыпеўкі «Ой, праўда, праўда...», ад іх жа — «Малако жэніцца». Сыпнуў колькі дасціпных жартовак і жыхар паджупранскага Зарэчча Юзаф Грынчук — «Недапёклая», «Якая табе весь?..».

Колькі цікавых досціпаў — «Лысы лысаму», «Цюцька — не сабака» — занатаваў ад Гэлі Талочкі з Жупранаў. Прыгадаў улюбёную татаву

прыпавець «Можаш яшчэ пабыць» Баляслаў Харкевіч, ад яго ж — «Слухай мяне». Ад ягонай матулі — «Каўтун з галавы». Ад жупранскага лесніка Уладзіміра Мажэйкі — «Лёгка». Ад стрыечнага Багушэвічавага ўнука Янкі Тарчэўскага — «Калі прыпячэ...». Ад ягонага дзядзькі Бранiслава Тарчэўскага — «Дарожная замова». Падкінула ў кніжачку сваю залацінку і Яніна Радзевіч — тую, дзе баба качаргою сонца дастае,— «На судзе». У саміх Кушлянах ад Рэгіны Сідарэвіч, якая калісь жыла ў радзінных паэтавых Свіранах, — занатаваў гумарэсачку «Я з Куль». Ад Ірэны Васілеўскай, бацькі якой былі Багушэвічавымі суседзямі, — «Еж — не накладайся...», «Не з'ясі — дык і не скочыш...».

Міколу Лавіцкаму намроіўся жартоўны абразок «Ён жа вас засцерагаў!» — пра дзеда Талаша. Досціп «Як і даўней» нагадаў мне Кастусь Цвірка, з якім мне аднойчы давялося разам вандраваць сцежкамі Мацея Бурачка. Ад Барыса Сачанкі — «Багушэвіч, ды не той». Дадалі па досціпу Валерый Палсцюк — «Хто на Трабы?» і Міхась Скобла — «Кушлянскі сон».

От гэтак і вызнаваўся зборнічак народных аповедаў з Багушэвічавага абшару.

А можна сказаць і так: той люд жыве, што свой гумар мае. Гумар — лекар. Ён — дух нацыі. Дык смейцеся на здароўе! Смейцеся разам, дружна. Хай жа родзяцца і не зводзяцца з нашай зямлі жартуны, смехуны, дасціпныя на слова людзі, нашы Несцеркі і іхнія шэсцеркі.

Народныя помаўкі, жартоўкі, анекдоткі, досціпы — сапраўдныя залацінкі. Яны здабываюцца, як тое золата, і, як тое золата, яны ніколі не губляюць сваёй зіхоткасці. Умей толькі слухаць! Умей радавацца з іх, дзівіцца, смакаваць!

## ЗМЕСТ

Сустрэча
Божыя людзі
Рабі сваё
Хто такія?
Адразу ў рай
Біскуп і сабачка
Абмылка
Чорт і латынь
Ля цыбулі віселі
Малітва багацея
Чмура
У лазе
Купіў бы каня
Гонар
Трошкі паспала
Трула
Недапёклая
Развaражылася
Дай Божа
От з ім і едзь
Дзіўны свет!
Што з таго?
Слівы за смяццё
Парады
Еж — не пакладайся
Абаранак на сняданак
Куляныя яйкі
Не з'ясі, дык і не скочыш
З званком не з'есць
Солы
Слухай мяне
Якая табе весь?
Я з Куль
Маргі ды гоні
Гасцінец
Выкаваў на памяць
На судзе
Крэўныя
Шрамок
Як з ім разумецца?
Ксёндз казаў
Чуб
Віно
Лысы лысаму
Барада

Булён
Курчаткі
Трахімы
Хто адгадае — пра што бае?
Загадка на слых
Скупота
Соль
Лашчавы
Лялька-ўсганька
Папытак
Гасціна
На два пёнтры
Лёгка
На сабе выверыў!
На елцы
Казала вязала
Пакуль знойдзе
У старога ўсё срога
Гара
Што найлепей?
Заві мяне
Чыста, гладка
Перакрочыць слова
Старасць не радасць
Абводзіус вочыус
Ачуняе
Медзвядзёва сіла
Калі б людзі не мерлі
Такі
Струмень тут
Калі прыпячэ
Не ў дугу
Гаў
Малако жэніцца
Не дапамогудь і Віслы
Кожнаму сваё
Хай капейчыша ацалее
Каб знайсці
Дарожная замова
Можаш яшчэ пабыць
Колькі мог
Джынджук
Не разгубіўся
Не разжыўся
Усіх у склеп

Цюцька — не сабака
Не хапіла б валовай скуры
Самі склалі
Хто на Трабы?
Споры кіламетр
Калі б не жонка
Усё ад сонца
Зямляча
Тутэйшыя
Беларус ці паляк?
Той, што казаў

**Той люд жыве, што сваіх песняроў шануе**
Тыкелька
Хамуцік
Падлэбнікі
Ці гуляе пані?
Хітры Пятрук
Як з рудога рабілі залатога
«Каким образом»?
Выроду не было
Пан Багушэвіч слухає
Багушэвічава кемнасць
І гэтага досыць
Мудрая назва
Мацей Бурачок
Як Мацей Бурачок
Як Багушэвіч стаў святым
Мэтр
Фундатар
Багушэвіч, ды не той
Багушэвіч не прадаецца!
Багушэвічава бабка
Ён жа вас засцерагаў!
Як і даўней
Кушлянскі сон

**Народный апавяданні ў запісах Францішка Багушэвіча**
Палясоўшчык *(Апавяданне старога лесніка)*
Сведка
Дзядзіна
Ігналева сякера
Слоўка на канцоўку

Пры афармленні першай старонкі вокладкі выкарыстаны малюнак мастака Лявона Дударэнкі «Ф. Багушэвіч з сялянамі». На аношняй старонцы вокладкі — фотаздымак Уладзіміра Содаля, зроблены Міхасём Разумнікам з Смаргоні.

***Літаратурна-мастацкае выданне***
***Содаль Уладзімір Ілліч***
***Умей слухаць***

*Кушлянскія дыяменты — жартоўкі, анекдоткі,*
*народныя аповеды, досціпы.*

*Рэдактар Н. Давыдзенка*
*Карэктар Н. Аляксеева*
*Камп'ютэрны набор і вёрстка Л. Вайчок*
*Адказны за выпуск Г. Вінярскі*

Падпісана да друку 20.05.2003 г. Фармат 84x108 1/32 Друк афсетны.
Папера афсетная. Ум. друк. 4,31 арк. Ул.-выд. 2,39 арк.
Наклад 300 ас. Зак. 1155.

МГА «Беларускі кнігазбор».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
Тэл./факс (017) 220-70-27.
Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.2002 г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.
ЛП № 91 ад 12.12.2002 г.